**№225 (1788)**

Пятніца , 28 лістапада 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +5...+7, дождж, уначы — +3...+5, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +7...+9, уначы — +6...+8, на працягу сутак — дождж; у Гродне ўдзень — +7...+9, уначы — +6...+8, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — +3...+5, дождж, уначы — +2...+4, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +3...+5, сонечна, уначы — 0...+2, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +3...+5, сонечна, уначы — 0...+2, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

*Крысціян ШТРОХАЛ:*

## «Трэба ўнесці змяненні ў выбарчае заканадаўства да парламенцкіх выбараў»

Дырэктар Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ **Крысціян ШТРОХАЛ** заклікаў беларускія ўлады своечасова, да парламенцкіх выбараў 2004 года, унесці змяненні ў выбарчае заканадаўства. Як паведамляе прэс-служба БДІПЧ, пра гэта Штрохал заявіў падчас сустрэчы з кіраўніком Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзіяй Ярмошынай, якая адбылася ў рамках яго першага рабочага візіту ў Мінску. Папраўкі ў выбарчае заканадаўства тычацца датэрміновага галасавання, правоў назіральнікаў, а таксама працэсу абскарджання і падачы апеляцый.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Апошні палёт літоўскага пілота

**У Гродзенскай вобласці знойдзены спартыўны самалёт, што разбіўся, як мяркуецца, некалькі месяцаў таму.**

Паводле непацверджанай пакуль афіцыйна інфармацыі, днямі ў лясным масіве паміж вёскамі Маркішы і Дубінка ў Гродзенскай вобласці быў знойдзены разбіты спартыўны самалёт без апазнавальных знакаў. На месцы падзення самалёта знойдзены астанкі двух чалавек.

Мяркуецца, што аварыя адбылася ад трох да васьмі месяцаў таму. Паводле адной з версій, самалётам кіраваў грамадзянін Літвы з горада Прэнай, які, з'яўляючыся пілотам-аматарам, 29 сакавіка 2003 года вылецеў без адпаведнага дазволу ў накірунку горада Мінска.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

*Віктар ГЕРАШЧАНКА:*

## «Момант аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі прапушчаны»



"Маё персанальнае меркаванне, што мы ўжо прапусцілі момант аб'яднання грашовых сістэм Расіі і Беларусі", — заявіў былы кіраўнік Цэнтрабанка Расіі Віктар Герашчанка на прэс-канферэнцыі ў расійскім інфармацыйным агенцтве "Навіны".

"Цяпер, калі размова ідзе пра стварэнне адзінай Еўразійскай эканамічнай супольнасці на аснове пяці рэспублік, гаварыць пра асноўную ролю расійскай валюты ўжо дастаткова цяжка. Я не думаю, што гэта атрымаецца", — падкрэсліў Герашчанка, які зараз з'яўляецца галоўным навуковым супрацоўнікам НДІ Цэнтрабанка Расіі.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Бяздзеянне — справа крымінальная

*У дачыненні да намесніка начальніка аддзела кантролю за ўскосным падаткаабкладаннем юрыдычных асоб інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Першамайскім раёне горада Мінска ўзбуджана крымінальная справа.*

Яна заведзена па прыкметах злачынства, прадугледжанага часткай 1 артыкула 245 Крымінальнага кодэкса Беларусі — бяздзеянне службовай асобы.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Камітэта дзяржаўнага кантролю (КДК), супрацоўнік падатковай інспекцыі правяла комплексную праверку выбарачным метадам УП "Радамір" (Мінск) і ўстанавіла факты ажыццяўлення гэтым прадпрыемствам асобных відаў дзейнасці без спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі) з атрыманнем даходу ў буйным памеры. Аднак яна наўмысна, насуперак інтарэсам службы, парушаючы дзеючыя патрабаванні, не прымяніла суцэльны метад пры правядзенні праверкі, у выніку чаго не ўстанавіла факт ажыццяўлення УП "Радамір" рэалізацыі нафтапрадуктаў без наяўнасці адпаведнай ліцэнзіі. Акрамя таго, супрацоўнік падатковай інспекцыі не адлюстравала ў акце праверкі УП "Радамір" гэты факт і не прымяніла эканамічныя санкцыі да прадпрыемства, чым не спыніла супрацьпраўную дзейнасць службовых асоб УП "Радамір", адзначаюць у прэс-службе КДК. У выніку незаконная дзейнасць прадпрыемства была прадоўжана пасля заканчэння праверкі з 16 красавіка 2002 года да 22 ліпеня 2002 года. Службовыя асобы "Радаміра" атрымалі пры гэтым даход у буйным памеры, учыніўшы тым самым злачынства, прадугледжанае часткай 1 артыкула 233 КК — незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

# У чаканні рахункаў...



*— За кватэру заплаціў, але што засталося?*

**Фота ByMedia.net**

73-гадовая жыхарка Гродна Часлава Антонаўна Семяновіч напружана чакае рахунак за камунальныя паслугі за лістапад. Сціплы быт самотнай кабеты наўпрост залежыць ад лічбаў у квітку за камунальныя паслугі. Усе ведаюць, што лістапад стане "дарагім" месяцам. Упершыню давядзецца плаціць за цяпло паводле новых тарыфаў, якія былі прыняты яшчэ ўлетку. Тады кошты былі паднятыя прыкладна на адну трэць. Калі дадаць да гэтага тое, што каля паловы ад коштаў за камунальныя паслугі складае аплата менавіта за цяпло, дык трывога, з якой Часлава Антонаўна чакае рахунак, робіцца абсалютна зразумелай.

Нервова праглядаючы квіткі за папярэднія месяцы, Часлава Антонаўна гадае, як ёй перазімаваць у гэтым годзе. За свае 40 год працоўнага стажу Часлава Семяновіч зарабіла пенсію ў 133 тысячы рублёў.

— Трэба эканоміць... Ад каўбасы я ўжо даўно адмовілася, — гаворыць Часлава Семяновіч.

Колькі "пацягне" яе сціплая кааператыўная аднапакаёўка ў снежні? Паводле папярэдніх падлікаў, каля 30—40 тысяч. Для самотнай пенсіянеркі, у якой пенсія з'яўляецца адзінай крыніцай існавання, гэта вялікія грошы.

— Я тут даўно ўжо хачу сабе ў апошні шлях сукенку замовіць. Кажуць, менш як за 20 тысяч гэта цяпер не каштуе, — уздыхае Часлава Антонаўна.

Сукенка пакуль што можа пачакаць. Кошты за камунальныя плацяжы — не.

...14 лістапада. У ашчадных касах, дзе прымаюць камунальныя плацяжы, стаяць чэргі. Усе імкнуцца заплаціць да 15-га. Справа ў тым, што пасля гэтай даты пачынае налічвацца пеня. Як паведамілі ва Упраўленні жыллёва-камунальнай гаспадаркі Гродзенскага аблвыканкама, складае яна 0,3 працэнта за кожны дзень затрымкі.

— Я з жахам чакаю, калі прыйдзе наступны рахунак. Колькі за лістапад будзе, нават цяжка сабе ўявіць. Вось аддала 54 тысячы. У нас двухпакаёўка. Але ж гэта толькі паўмесяца грэлі. А што будзе потым? Як нам жыць? — пытае кабета сярэдніх гадоў, якая толькі што разлічылася за кастрычнік. Чарга маўчыць. У кожнага свой квіток і свае праблемы.

Міністэрствам эканомікі ўсталяваны, а Гродзенскім аблвыканкамам зацверджаны адзіны тарыф, паводле якога адна гігакалорыя цяпла каштуе 25648,69 рублей. Гэтая лічба аднолькавая для ўсіх. Але плата за ацяпленне залежыць яшчэ і ад плошчы кватэры, а плата за вываз смецця альбо за карыстанне ліфтам — ад колькасці прапісаных у кватэры людзей і г.д. Менавіта з гэтай прычыны лічбы ў рахунках могуць моцна адрозніваецца. Рэальна атрымоўваецца так, што доля цяпла і гарачай вады складзе да 80 працэнтаў ад канчатковай лічбы. Таму менавіта рахунак за лістапад — першы месяц, калі цяпло ў кватэры падавалася стала, — чакаецца людзьмі з такой трывогай.

У выніку няхітрых падлікаў можна спрагназаваць, што стандартная двухпакаёвая кватэра, дзе пражываюць два чалавекі, ў снежні будзе каштаваць да 75 тысяч, а трохпакаёўка, дзе жыве сям'я з чатырох чалавек, — больш за 100 тысяч.

Міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Аляксандр Мількота ў кастрычніку запэўніў, што да канца года ніхто павялічваць тарыфы на камунальныя паслугі не будзе. Але нават без гэтага лічбы ў квітках вырастуць. Справа ў тым, што тарыфы за жыллёва-камунальныя паслугі будуць індэксаваныя.

— Індэксацыя адбываецца штомесяц. Камунальныя плацяжы індэксуюцца ў залежнасці ад індэксу спажывецкіх коштаў, — патлумачылі ў жыллёвым рамонтна-эксплуатацыйным упраўленні Ленінскага раёна Гродна. Гэта азначае, што калі павялічваюцца спажывецкія кошты, то адпаведна будуць павялічаны і тарыфы за камунальныя плацяжы. Па гэтай прычыне ў верасні тарыфы былі павялічаны на 1,8 працэнта, у кастрычніку — на 2,9.

Няўпэўненасць у заўтрашнім дні спараджае нервовасць, напружанасць паміж жыльцамі і камунальшчыкамі.

— З пачаткам ацяпляльнага сезона многія прыходзяць да нас сварыцца. Людзі не разумеюць, што гэта не мы ўсталёўваем тарыфы і не мы іх павялічваем. Мы толькі выканаўцы... Мы самі плацім за камунальныя паслугі такія самыя грошы, што і іншыя, — гаворыць адна з супрацоўніц ЖРЭУ Ленінскага раёна.

Паводле падлікаў упраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі аблвыканкама, прыкладна 7—8 працэнтаў насельніцтва Гродзеншчыны маюць запазычанасці па камунальных плацяжах. Гэта азначае, што размова ідзе пра дзесяткі тысяч чалавек. З надыходам зімы іх колькасць непазбежна павялічыцца.

— Усё залежыць ад раёна пражывання. Там, дзе прамысловыя раёны, запазычанасць большая, там, дзе сельскія, — гэта запазычанасць значна меншая і можа складаць нават 2—3 працэнты ад агульнай колькасці плацельшчыкаў, — гаворыць намеснік начальніка ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі аблвыканкама Ігар Ласоўскі.

Для ўлад камунальныя плацяжы ўжо даўно з'яўляюцца пастаянным галаўным болем. 14 лістапада Аляксандр Лукашэнка нават правёў адмысловую нараду, прысвечаную пытанням забеспячэння нармальнай працы энергетычнага комплекса краіны. Паводле інфармацыі прэс-службы кіраўніка дзяржавы, Аляксандр Лукашэнка на гэтай нарадзе гарантаваў, што кошты на камунальныя паслугі ў 2004 годзе вырастуць не больш як на 4—5 долараў ЗША.

Часлава Семяновіч таксама ўспамінае пра Аляксандра Рыгоравіча.

— Памятаю, Лукашэнка неяк ў Гродна прыязджаў. Яшчэ падчас перадвыбарчай кампаніі. Клаў руку на сэрца. Казаў: калі ў мяне не атрымаецца, дык я адыду. Вось — не атрымалася. Але ж ён не адыходзіць, — са скрухай у голасе разважае Часлава Антонаўна. Але, у адрозненне ад большасці насельніцтва, Часлава Семяновіч, зацятая апазіцыянерка, на дапамогу прэзідэнта ніколі не разлічвала.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**
*pahonia.promedia.by*

**ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ**

## Козулин свободен

***Вчера с бывшего ректора БГУ Александра Козулина сняли подписку о невыезде***

Как известно, Козулин был объявлен подозреваемым по делу "Унидрагмета", которое с подачи самих же правоохранительных органов получило широкую огласку.

Как уже сообщалось, 5 ноября против этого унитарного предприятия, входящего в структуру БГУ, было возбуждено уголовное дело. 13 ноября были задержаны директор НПРУП "Унидрагмет БГУ" **Георгий Корзун** и его заместитель **Вячеслав Санников.** Первоначально они подозревались в хищении большой партии золота на сумму более 300 тысяч долларов США. В общежитии, где проживает семья Корзуна, и на квартире Санникова даже провели обыск. Но золотых слитков не обнаружили. И предъявить обвинение по этой статье Уголовного кодекса следствие, видимо, не решилось.

В прошлую пятницу Следственный комитет МВД предъявил обвинение Георгию Корзуну и Вячеславу Санникову. Они признаны обвиняемыми в уклонении предприятия от уплаты таможенных платежей.

Вчера в Следственный комитет МВД был вызван бывший ректор БГУ Александр Козулин. Обвинение ему предъявлено не было. С бывшего ректора БГУ сняли подписку о невыезде. *"Пока не знаю, чем буду заниматься, хочется от всего отдохнуть",* — заметил Александр Козулин, выйдя из здания Следственного комитета МВД.

Вчера после обеда прошел и дополнительный допрос по ходатайству **Вячеслава Санникова** и его адвоката **Веры Стремковской**. *"Нами подана жалоба в суд на отмену меры пресечения — ареста,* — комментирует Вера Стремковская. — *На мой взгляд, не было никаких оснований арестовывать Санникова, поскольку содержание под стражей в данном конкретном случае не обусловлено обстоятельствами дела. Мера пресечения избирается с учетом личности человека и с учетом реальных обстоятельств дела. В данном случае принципы гуманности, принципы соответствия не соблюдены. Санников был задержан по одному подозрению, а обвинение предъявлено другое: уклонение от уплаты таможенных платежей. Хотя в соответствии со статьей 124 Таможенного кодекса Республики Беларусь "неуплаченные таможенные платежи взыскиваются таможенным органом Республики Беларусь в бесспорном порядке независимо от времени обнаружения факта неуплаты".*

*Кроме того, жене Санникова не дали разрешения на свидание. В камере, где он содержится, четыре койки, а размещено там пять человек".*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Паперкі — на паперкі

*Міністэрства эканомікі ўнесла на разгляд урада праект пастановы аб працягу тэрміна абарачэння прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць" яшчэ на тры гады.*

Чакаецца, што згаданы праект будзе прыняты ў бліжэйшы час. Чым гэта можна патлумачыць?

Чэкавая прыватызацыя пачата ў Беларусі з 1993 года. Ідзе яна марудна. Па даных Міністэрства эканомікі, на руках насельніцтва застаецца яшчэ 200 мільёнаў нявыкарыстаных чэкаў з 427,6 мільёна іх. Прычына, відаць, у тым, што на абмен былі выстаўлены акцыі слабых, неперспектыўных прадпрыемстваў.

Меркавалася закончыць гэту кампанію да 31 снежня гэтага года. Але ў такім выпадку давялося б пагашаць нявыкарыстаныя чэкі, кожны з якіх ацэнены ў 3600 рублёў. Ды ў краіне няма столькі грошай. Было меркаванне аб тым, каб не аплачваць уладальнікам нявыкарыстаных чэкаў кампенсацыю. Яно сустрэла незадаволенасць грамадскасці.

У такім разе працяг тэрміна чэкавай прыватызацыі выглядае лагічным, бо гэта найлепшы варыянт для ўлад. Не трэба выдзяляць на абмен на чэкі акцыі прыбытковых прадпрыемстваў, не трэба выплачваць кампенсацыю за нявыкарыстаныя чэкі... Няхай грамадзяне працягваюць абменьваць адны паперкі на другія — чэкі "Маёмасць" на акцыі ўсё тых жа прадпрыемстваў.

**Алесь ДРАБЧУК.**



# Дэзерціраў — пад суд!

*Не дома, а ў турме давядзецца хутчэй за ўсё сустракаць сваё 30-годдзе колішняму жыхару Жодзіна Віталю Шапараву, які быў прызваны на тэрміновую службу ў армію амаль 9 год таму і неўзабаве збег з размешчанай у Барысаве воінскай часці. Было гэта яшчэ ў студзені 1995 года.*

Віталь дужа не хацеў у армію, неаднаразова не зважаў на ваенкаматаўскія позвы, яго даводзілася шукаць з дапамогай міліцыі. А калі знайшлі і накіравалі-такі на службу ў барысаўскі гарнізон, ён пачаў сімуляваць розныя хваробы і дабіўся шпіталізацыі ў ваеннай лячэбнай установе. Там Віталя наведалі сябры-землякі, і ў той жа дзень радавы Шапараў знік са шпіталя ў невядомым напрамку.

Праз колькі дзён маці ўцекача даслала ў воінскую часць, дзе служыў сын, тэлеграму: маўляў, Віталь хутка вернецца ў гарнізон. Але ў казарме радавы Шапараў так і не з'явіўся. Затое нядаўна ён выпадкова "засвяціўся" ў Маскве, адкуль 29-гадовага дэзерціра пад канвоем даставілі ў Жодзінскі следчы ізалятар, дзе з ім вядуць гутаркі службоўцы ваеннай пракуратуры. Цяпер Віталя Шапарава будуць судзіць па адпаведным артыкуле.

Збягаюць з войска не толькі "зялёныя" салдаты. Больш як тры месяцы быў ва ўцёках прапаршчык, які служыў у Бароўцы, на тэрыторыі Віцебскага гарнізона. Пасля "вучэбкі" ў Печах (бліз Барысава) ён не вярнуўся на месца службы, бадзяўся па Мінску, начаваў на вакзале, дзе яго і затрымалі. Неўзабаве ён будзе адказваць на пытанні Віцебскага ваеннага суда.

Згаданы прапаршчык — толькі адзін з 16 вайскоўцаў, якія былі аб'яўлены ў вышук за ўхіленне ад службы на тэрыторыі Віцебскага гарнізона.

Самавольна пакідаюць месца службы нават афіцэры. Да гэтага часу лічыцца ў вышуку старшы лейтэнант медыцынскай службы, былы жыхар Віцебска Алег Чабан, які самавольна пакінуў воінскую часць 29 ліпеня 1997 года і нейкім чынам апынуўся ў далёкім замежжы, дзе яго, зразумела, ужо ніхто не будзе шукаць, затрымліваць і караць.

Нягледзячы на афіцыйныя паведамленні аб паляпшэнні маральнага стану беларускай арміі, дзе нібыта ўжо няма праяўленняў праславутай "дзедаўшчыны", не ўсё ў войску так добра. Да гэтага часу раз-пораз становяцца вядомымі факты здзекаў і гвалту старослужачых над маладымі салдатамі, але далёка не заўсёды да здарэнняў такога кшталту армейскае начальства ставіцца з належнай сур'ёзнасцю.

У канцы мая бягучага года ў адной з вайсковых часцей, што дыслацыруюцца на Лепельшчыне, камандзір падраздзялення падпалкоўнік Андрэеў даведаўся ад дзяжурнага афіцэра, што старослужачыя моцна збілі двух маладых салдат. Падпалкоўнік меў магчымасць і быў абавязаны ўзбудзіць крымінальную справу па факце гвалту над салдатамі, але не зрабіў гэтага, каб не псаваць сваю рэпутацыю. Тым не менш з цягам часу прыкрая гісторыя атрымала агалоску, і старшага афіцэра прыцягнулі да адказнасці разам з тымі, чыё злачынства ён імкнуўся схаваць. 42-гадовы падпалкоўнік паўстаў перад ваенным судом і атрымаў паводле прыгавору тры месяцы арышту "за наўмыснае бяздзеянне ўлады".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## В Грузии возбуждено уголовное дело по фактам фальсификации выборов



По словам Нино Бурджанадзе, судебный процесс должен быть доведен до конца и наказание понесут все причастные к нарушениям, какие бы должности они ни занимали.

Исполняющая обязанности президента отметила, что не хочет нарушать принцип презумпции невиновности, поэтому не стала называть конкретных имен.

## Массовые протесты в Киеве

Возле здания Верховной Рады Украины вчера одновременно проходили массовые акции оппозиции и представителей шахтерских профсоюзов. По разным данным, в центре Киева собрались от трех до пяти тысяч человек.

Примечательно, что оппозиционеры и шахтеры выдвигают разные требования. Горняки, приехавшие в Киев из нескольких регионов Украины, поддерживают проект бюджета, который разработало правительство во главе с бывшим губернатором Донецкой области Виктором Януковичем. В этом документе предусмотрены рекордно высокие дотации на развитие угольного сектора. Однако сторонники четырех оппозиционных фракций парламента требуют отклонить бюджет, поскольку он предусматривает значительное снижение размера минимальной заработной платы.

Как сообщило Би-Би-Си, перед началом сессии парламента митинговые страсти переместились непосредственно в зал парламента. Поддерживающие правительство и президента фракции окружили президиум Рады, чтобы не пропустить туда представителей оппозиции. Депутаты, представляющие оппозиционные фракции, начали скандировать свои требования с помощью мегафона. Однако затем работа Рады нормализовалась, и депутаты начали обсуждение.

## ЕС намерен построить первый в мире термоядерный реактор

Термоядерный реактор, в котором планируется отработать технологии для создания первой коммерческой термоядерной электростанции, может быть построен во Франции. С таким предложением выступил Евросоюз — один из участников международного консорциума ITER, работающего над созданием реактора.

Окончательное решение о месте строительства будет принято на встрече представителей стран — участников программы в декабре. Ожидается, что при голосовании Франции предстоит выдержать серьезную конкуренцию со стороны Канады и особенно Японии. Остальные участники консорциума — Россия, США, Китай и Южная Корея — не претендуют на строительство реактора на своей территории.

ITER является крупнейшим международным исследовательским проектом в области энергетики. В отличие от традиционных АЭС, станция с термоядерным реактором не выделяет радиоактивных отходов. Кроме того, запасы топлива для термоядерной станции можно считать почти неисчерпаемыми. Его основные компоненты — детерий и тритий — получают из воды и из широко встречающегося металла лития соответственно.

## Погибли на озере в Конго

Большое количество людей погибло и считаются пропавшими без вести в результате крушения пассажирского судна на озере в Демократической Республике Конго. На момент подготовки информации с места трагедии поступали противоречивые данные о количестве жертв.

Би-Би-Си сообщает, что крушение судна произошло днем, однако это озеро находится в 400 километрах от столицы, связь с районом катастрофы затруднена, и известие о трагедии дошло до столицы только через два дня.

## Вакцина найдена?

Само название "лихорадка Эбола" заставляет трепетать африканцев. Это самое опасное вирусное заболевание, известное сегодня. Поэтому поиск вакцины против этой болезни на протяжении десятилетий остается мечтой исследователей. Похоже, к мечте вплотную приблизилась группа американских ученых. Их работа была осложнена тем, что в вакцине не должен был присутствовать сам смертельный вирус. Говорит руководитель проекта доктор Гари Нэйбел: "Мы разрабатывали вакцину не традиционным способом с использыванием ослабленного вируса, а на основе белков, схожих с теми, из которых состоит вирус "лихорадки Эбола". Таким образом вакцина не вызывает вирусной инфекции".

27 добровольцев дали испытать на себе действие вакцины.

Другой новинкой является способ вакцинации. Разработан специальный пистолет, который сжатым воздухом вводит вакцину сквозь кожу в мускульную ткань. Шприц не нужен. Директор центра Барни Грэхэм продолжает: "При традиционной вакцинации с помощью шприца препарат попадает сквозь тонкий прокол, сделанный иглой, в ограниченное число клеток. Новая система введения вакцины доставляет препарат гораздо большему числу клеток. Эффективность такой инъекции гораздо выше".

3 года опытов над обезьянами дали позитивные результаты. Новая вакцина будет важна не только для медицины. У потенциальных био-террористов пропадет один из самых опасных видов оружия.

## Что врезалось в космическую станцию?



Международная космическая станция, по всей видимости, столкнулась с небольшим предметом. Никаких нарушений в работе бортовых систем нет. Американский астронавт Майк Фоул сообщил Центру управления в Хьюстоне, что удар пришелся на российский модуль, где находятся спальня, кухня и туалет. По словам Фоула, звук был такой, будто расплющили консервную банку. Позже экипаж осмотрел обшивку станции при помощи внешней камеры, но никаких повреждений не обнаружил.

"Никакого предупреждения о приближении к МКС постороннего объекта мы не выдавали", — сообщили в космических войсках.

## Ветеран полиции Детройта ограбил 13 банков

46-летний сотрудник детройтской полиции обвиняется в ограблении 13 банков и сговоре с целью ограбить 14-й. Прокуратура Детройта считает, что сержант Уолтер Джон Бейтс, отслуживший в отделе по расследованию убийств 18 лет, прикрывал своего брата, 37-летнего Альберта Стивена Бейтса, и третьего участника преступлений, 43-летнего Кевина Фостер-Бея, во время грабежей. Также Уолтер иногда выполнял функции водителя.

ПУЛЬС

## Не проста аўтастаянкі, а трохузроўневыя

У 2004 годзе унітарнае прадпрыемства "Гаражы, аўтастаянкі, паркоўкі" мае намер пабудаваць у Мінску, на вуліцы Прытыцкага, каля Лядовага палаца, першую аўтастаянку з лёгкіх металаканструкцый. Яна будзе ўдвая танней за маналітныя аб'екты тыпу "Паркінга", размешчанага непадалёк ад Камароўскага рынка.

Сталічны Камітэт архітэктуры прапрацоўвае схему перспектыўнага размяшчэння ў Мінску некалькіх дзесяткаў шматузроўневых аўтастаянак. Ужо рыхтуецца правядзенне тэндэра на будаўніцтва стаянак на вуліцах Бабруйская (каля аўтавакзала "Цэнтральны"), Лынькова, Ціміразева, Ванеева, каля МКАД у мікрараёне "Лошыца", на праспекце Дзяржынскага, на перакрыжаванні вуліц Слабадская і Касманаўтаў (мікрараён "Малінаўка-8").

Праектаванне плоскасных адкрытых аўтастаянак вядзецца на ўчастках па вуліцах Чыжэўскіх (на 300 машынамесцаў), Прушынскіх (350 месцаў), Слабадской (800 месцаў), Ляшчынскага (300 месцаў). Акрамя таго, на вуліцы Лучыны ў Лошыцы плануецца пабудаваць комплекс, у склад якога ўвойдуць шматузроўневы гараж на 500 месцаў і дзве аўтастаянкі (на 300 і на 500 месцаў).

Акрамя таго, у Мінску праектуюцца дзве шматузроўневыя аўтастаянкі на вуліцах Мяснікова і Мірашнічэнкі.

**Лавінія АРЭШКА.**

## «Ліпавая» смерць

Дзеля атрымання грашовай кампенсацыі жыхарка Ізраіля набыла ў Баранавічах падробнае пасведчанне аб смерці мужа

Днямі пракуратура Баранавіцкага раёна распачала крымінальную справу ў дачыненні да намесніка дырэктара па вучэбнай працы Баранавіцкага медыцынскага вучылішча. Яна падазраецца ў складанні падробнага пасведчання аб смерці грамадзяніна Е., выдадзенага ў ліпені 2003 года.

Як стала вядома, падробнае пасведчанне аб смерці яе папрасіла зрабіць знаёмая, жонка Е. Муж і жонка з'яўляюцца грамадзянамі Ізраіля, і, згодна з законам гэтай краіны, адзін з іх атрымлівае грашовую кампенсацыю ў выпадку смерці другога. Гэтым і вырашыла скарыстацца прадпрымальная жанчына, тым больш што сям'я жыве паасобку: яна — у Ізраілі, яе муж — у Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці.

Аднак перш чым выплаціць кампенсацыю, ізраільскія службы вырашылі праверыць, ці памёр на самай справе грамадзянін Е. Аказалася, 34-гадовы мужчына жывы і нават не падазраваў, што жонка планавала зарабіць грошы на яго "смерці".

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

СТОП-КАДР



*Старшыня Камітэта памежных войскаў Аляксандр ПАЎЛОЎСКІ (справа) і дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Беларусі Генадзь НЯВЫГЛАС (злева) каштуюць хлеб-соль падчас цырымоніі адкрыцця новай памежнай камендатуры "Гудагай" на беларуска-літоўскай мяжы.*

**Фота ByMedia.net**

ПАМЯЦЬ

# Мой Халакост

Паважаная рэдакцыя!

Надрукаваны ў вашай газеце 25 кастрычніка гэтага года артыкул пад рубрыкай "Памяць" узрушыў даўнюю і вельмі балючую для мяне тэму: расстрэл майго бацькі нямецкімі карнікамі на вачах дзяцей і жонкі, а таксама суседзяў.

Адбылося гэта за тыдзень да Вялікадня 1942 года ранняй вясной у вёсцы Зорка Слаўкаўскага сельскага Савета Глускага раёна Магілёўскай вобласці.

З раніцы ў бліжэйшых Слаўкавічах пачулася страляніна, і ўся наша сям'я разам з суседзямі, якія прыйшлі да бацькі, сталі глядзець у той бок, адкуль былі выстралы. Нечакана да нашай хаты на падводзе са сваёй сям'ёй і скарбам пад'ехаў і прыпыніўся стары Навумовіч са Слаўкавіч.

Бяда з'явілася нечакана і з другога боку: раптоўна, на нашых вачах, з'явіўся атрад нямецкіх карнікаў, які прыйшоў з вёскі Падлуг, што ў Любанскім раёне. Галоўным чынам іх зацікавіла падвода з канём, на якой было нагружана шмат хатняга скарбу. Спытаўшы, хто гаспадар каня, яны адразу накінуліся на старога чорнабародага Навумовіча са словамі: "Юда! Юда! Юда!". Так немцы называлі яўрэяў.

Усё адбылося за лічаныя хвіліны: старога Навумовіча, двух яго сыноў і падростка-ўнука як яўрэяў, і майго бацьку, Пятра Мікалаевіча Рухаўца, які даў прытулак яўрэйскай сям'і, вывелі на скрыжаванне дарог і расстралялі літаральна на нашых вачах. Забілі фашысты і маіх дзвюх старэйшых сясцёр, маці і брата.

Мой бацька — майстар на ўсе рукі, прыгажун і весяльчак — загінуў ва ўзросце Ісуса Хрыста: было яму роўна 33 гады.

Пакуты нас, чацвярых дзяцей, былі бязмежныя, асабліва тады, калі на прымусовую працу ў Германію забралі нашу маці — Надзею Іванаўну Рухавец.

Гэта ніколі не забываецца: той чорны дзень, — забойства бацькі і іншых нявінных ахвяр — застаўся ў памяці назаўсёды.

Пасля вайны я атрымала вышэйшую гуманітарную адукацыю, з цягам часу мянялася мая ўласная ацэнка наконт гэтых падзей. Усе апошнія гады я шукала адказ на пытанні: чаму? за што? хто вінаваты? ці была непазбежнай тая страшная і жорсткая вайна?

У апошнія месяцы свайго жыцця вялікі патрыёт Расіі адмірал Калчак прадбачыў і папярэдзіў маючую адбыцца схватку паміж бальшавікамі і нацыстамі. Ён добра ведаў, хто захапіў уладу ў краіне.

Але мне больш падабаецца думка нашага сучасніка, аднаго маскоўскага літаратара, якую я пачула нядаўна з экрана тэлевізара:

— Гэтай страшнай вайны магло і не быць.

**Ніна Пятроўна ХАЦЬКО, пенсіянерка.**

*г.Салігорск.*

СОРАМ!

## Не ведаем айчыннай гісторыі

*У выніку апытання, праведзенага краязнаўцамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры сярод 100 маладых людзей, толькі 44 чалавекі змаглі сказаць, што Міндоўг быў вялікім князем Наваградскім, 14 чалавек правільна назвалі Міндоўга адзіным каралём у гісторыі Вялікага княства Літоўскага і толькі 5 чалавек ведалі аб тым, што ў 2003 годзе адзначаецца 750-годдзе каранацыі Міндоўга.*

Вядомы беларускі гісторык, прафесар Анатоль Грыцкевіч адзначыў, што "юбілей каранацыі Міндоўга шырока выкарыстоўваецца літоўскімі гісторыкамі і палітыкамі, якія насуперак летапісам спрабуюць даказаць, што гэтая падзея адбылася не ў Навагрудку. "Яны сцвярджаюць, што каранацыя Міндоўга адбылася дзесьці на тэрыторыі Літвы, а Вялікае княства Літоўскае з'яўляецца абсалютна літоўскай дзяржавай, і беларусы не маюць да яго ніякага дачынення. На жаль, па гэтым пытанні мы пакуль не можам знайсці ўзаемаразуменне са сваімі літоўскімі калегамі", — сказаў вучоны. Ён мяркуе, што "каранацыя Міндоўга і стварэнне асаблівай каталіцкай дыяцэзіі, падпарадкаванай рымскай курыі, умацавалі становішча Беларуска-літоўскай дзяржавы і зацвердзілі яе самастойнасць сярод еўрапейскіх краін".

Старшыня дабрачыннага фонду "Любчанскі замак" Іван Пячынскі паведаміў, што 29 лістапада ў пасёлку Любча (Навагрудскі раён Гродзенскай вобласці) адбудзецца ўрачыстае адкрыццё памятнага крыжа, прысвечанага 750-годдзю стварэння першага біскупства, якое паследавала пасля каранацыі Міндоўга.

Акрамя таго, І.Пячынскі запрасіў студэнтаў універсітэта ў перыяд навуковай практыкі ўзяць удзел у аднаўленні гатычна-рэнесанснага Любчанскага замка XVI-XIX стагоддзяў.

**Марат ГАРАВЫ.**

ДЗІКУНСТВА

## «Паляванне» расійскага ГРУ

Расійскія СМІ паведамілі аб судовай справе па забойстве ў студзені 2002 года шасці мірных жыхароў Чэчні афіцэрамі атрада спецыяльнага прызначэння Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Расіі. Спецпрызначэнцы без істотных на тое падстаў абстралялі аўтамашыну "УАЗ" і адразу забілі аднаго і паранілі двух пасажыраў. Толькі пасля гэтага ваякі разабраліся, што тыя людзі ніякага дачынення да баевікоў не маюць. Тады спецпрызначэнцы, каб усё было шыта-крыта, дабілі параненых, расстралялі астатніх трох чалавек і паспрабавалі спаліць цэлы забітых разам з машынай. Калі ж усё гэта высветлілася, "спецы" спасляліся на няпісанае правіла спецпадраздзяленняў: знішчаць сведкаў, якія могуць выкрыць месцазнаходжанне спецпрызначэнцаў. На маё здзіўленне, СМІ Расіі не абвяргаюць існаванне такога правіла, абмяркоўваецца толькі правамоцнасць (?!) яго скарыстання ў гэтым канкрэтным выпадку. А такі выпадак, як выяўлена, зусім не адзіны.

Я неяк магу ўявіць сабе такія дзеянні ў час вайны і на варожай тэрыторыі. Але як такое можна чыніць у сваёй краіне, сярод свайго мірнага насельніцтва? Рэчаіснасць дэмакратычнай Расіі, як выяўляецца, нават жудасней за фантастычнае дзікае паляванне караля Стаха, пра якое напісаў У.Караткевіч. Сумнавядомы палкоўнік Буданаў побач з "адмарозкамі ў законе" з расійскага ГРУ выглядае прыдуркаватым хлапчуком.

Доўгі час нам апавядалі пра тое, як лютавалі тантон-макуты дыктатара Гаіці Дзювалье і аргенцінскія "эскадроны смерці". Цяпер вось за справу ўзяліся спецпрызначэнцы ГРУ Расіі.

**Міхась ЗАПОЛЬСКІ, жыхар Мінска.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## «Калі не мы — дык хто, калі не зараз — то калі?»

*26 лістапада ў Мінску, у Пасольстве Літоўскай Рэспублікі адбылася прэзентацыя карціны вядомага беларускага мастака Андрэя Плясанава "Калі не мы — дык хто, калі не зараз — то калі?", перададзенай у дар Літоўскай Рэспубліцы. Жывапіснае палатно, прысвечанае аднаўленню незалежнасці Літвы, было створана ў 1991 годзе. У карціне аўтар адлюстраваў трагічныя падзеі 13 лістапада 1991 года, калі пралілася людская кроў падчас штурму тэлевежы ў Вільнюсе.*

На заднім плане палатна прадстаўлены сімвалічныя выявы людзей за агараджальнай стужкай, што не толькі аддзяляе натоўп ад важнага ахоўваемага аб'екта, але і характарызуе яго паслухмянасць таталітарнай дзяржаве. На пярэднім жа плане карціны — тры знакавыя сілуэты тых, хто пакінуў агараджальную стужку за сабой. У гэтых людзей сорам перамог страх, і яны гатовыя пайсці на смерць дзеля свабоды.

Выступаючы на прэзентацыі карціны, **А.Плясанаў** зазначыў, што ў сваіх творах ён імкнецца адлюстраваць важныя падзеі грамадска-палітычнага і культурнага жыцця. "З другой паловы 80-х гадоў, калі ў СССР пачалася перабудова і таталітарная сістэма стала даваць збоі, я паехаў за мяжу, адкуль з вялікай цікавасцю назіраў за сітуацыяй у Літве, якая на шляху да свабоды ішла наперадзе ўсіх былых савецкіх рэспублік. Так нарадзілася ідэя карціны", — сказаў А.Плясанаў. Паводле яго слоў, гэтая праца, якая ніколі не выстаўлялася ў Беларусі, экспанавалася не менш за 50 разоў на вернісажах у Галандыі і Германіі. "І калі пасля доўгіх пошукаў, звязаных з крадзяжом карціны былым маім імпрэсарыо, яна вярнулася ў Мінск, я вырашыў падарыць яе народу Літвы, паколькі яны былі і маёй крывёю", — зазначыў мастак.

**Марат ГАРАВЫ.**

ВЫ НАМ ПІСАЛІ...

### Звяртайцеся да канкрэтных людзей

***Валерыю ГАНЧАРЭНКУ, жыхару вёскі В.Лётцы Віцебскага раёна***

Паважаны Валерый!

Падтрымліваем Ваш намер наведаць у якасці паломніка Святую Зямлю (Ізраіль). Але па дапамогу звяртайцеся самі да канкрэтных людзей — бізнесменаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, фірм. З аднаго боку, знайсці 1000—1500 долараў не так ужо і цяжка, з другога — не так і проста. Пашанцуе — пабываеце на Радзіме Ісуса Хрыста, не пашанцуе — не губляйце надзею, што Ваша мара здзейсніцца праз пэўны час.

### Каму служаць святары?

***Міколе БЕЛАНОЎСКАМУ, жыхару г.Мінска.***

Шаноўны спадар Беланоўскі!

З Вашага ліста ў рэдакцыю вынікае, што многія святары, якія праводзяць набажэнствы ў Беларусі, настроены прарасійскі. І Вы крытыкуеце іх за гэта, сцвярджаеце, што трэба служыць Духу Святому, а не суседняй дзяржаве.

Мабыць, у Вашых словах ёсць рацыя.

### Разавая дапамога — гэта добра, але жыццё інвалідаў павінна быць іншым

***Ж.САСНІЦКАЙ, старшыні праўлення Баранавіцкай гарадской арганізацыі ГА "Беларускае таварыства інвалідаў".***

У сваім лісце Вы, спадарыня Сасніцкая, выказваеце падзяку дэпутату Палаты прадстаўнікоў М.Сергіенку за тое, што ён арганізаваў бясплатную паездку дзяцей бацькоў-інвалідаў. Для сарака хлопчыкаў і дзяўчынак гэты дзень сапраўды запомніцца на ўсё жыццё. І парламентарый, які прадумаў цудоўную праграму і сам цэлы дзень правёў у сталіцы з дзецьмі, заслугоўвае добрага слова.

Толькі будзем шчырымі: хто, як не дэпутаты, павінны клапаціцца аб павышэнні дабрабыту людзей, у тым ліку і інвалідаў. Скажаце: ці кожная сям'я можа знайсці сродкі, каб у выхадныя дні адправіцца на экскурсію ў Мінск альбо іншы вялікі горад? Беднасць многіх сем'яў не спрыяе гарманічнаму развіццю дзяцей. Таму ад парламентарыяў патрабуецца больш, чым арганізаваць экскурсію дзяцей у Мінск, — ім трэба зрабіць усё, каб дабрабыт беларускіх сем'яў не зніжаўся, што, на жаль, мае месца, а павышаўся. Для гэтага дэпутаты павінны заняць больш прынцыповую пазіцыю, а не зазіраць у рот таму, хто называе сябе "бацькам" нацыі, а на самай справе вядзе гэтую нацыю да вымірання.

### Звярнуліся да Лукашэнкі — чакайце адказу

***У.І.КАРАЛЬКОВАЙ, Л.С.МІНКЕВІЧ, жыхаркам Мінска.***

Паколькі першы экземпляр свайго пісьма вы накіравалі А.Лукашэнку, а копіі — у многія газеты, то, зразумела, патрабуйце адказу ад першага адрасата. Тым больш што гаворка ідзе пра вашы адносіны з выканаўчай і судовай уладамі. У любым выпадку скарыстайце свае законныя правы цалкам, звяртаючыся пры неабходнасці ў самыя высокія судовыя інстанцыі.

### На рэагаванне — у Міністэрства ўнутраных спраў

***А.І.ТУРУ, жыхару г.Дзяржынска Мінскай вобласці.***

Паважаны А.Тур!

Мы разумеем Ваша абурэнне дзеяннямі асобных супрацоўнікаў міліцыі. Але мы хочам, каб адпаведныя службы Міністэрства ўнутраных спраў правялі больш стараннае расследаванне, а таму пісьмо, якое Вы даслалі ў рэдакцыю, мы пераадрасавалі міністру У.Навумаву.

### Бараніце свой гонар адкрыта

***Паляўнічым Старынкаўскага лясніцтва Вілейскага раёна***

Шаноўныя спадары паляўнічыя!

А ў рэдакцыі ўсё ж думалі, што хто-хто, а паляўнічыя ўмеюць бараніць свой гонар адкрыта, не хаваючыся за ананімкай. Калі Вас крыўдзіць тое, што правам першачарговага атрымання паляўнічых пуцёвак беспадстаўна надзелены сваякі і сябры егера, то Вы калектыўна звярніцеся ў вышэйстаячую арганізацыю з патрабаваннем адмяніць незаконныя льготы.

І яшчэ, калі паляўнічтвазнавец і егер патураюць браканьерам, звярніцеся са скаргай у праваахоўныя органы. Адным словам, ёсць факты — дзейнічайце адкрыта і дружна. Баяцца павінны не Вы, а тыя, хто парушае законы.

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

ЖУРНАЛИСТСКОЕ РАССЛЕДОВАНИЕ

# Душиловка, или Почему торговля дышит на ладан?

*Белорусская торговля продовольственными товарами еле выживает. Не спасает даже то, что теперь практически любой магазин можно выкупить или взять в аренду. И новый закон о торговле не улучшил положения.*

*Я решила пройтись по магазинам разных форм собственности и услышать, что называется, из первых уст о проблемах, которые не дают нормально торговать и свободно развиваться. Попыталась выяснить, готова ли наша торговля к работе в условиях свободной экономической зоны в рамках подписанного недавно договора между Беларусью, Россией, Украиной и Казахстаном.*

*Получился этакий собирательный образ руководителя самого рядового магазина, который есть в любом городе страны. Вот что я узнала.*

### Работать в новых экономических условиях мы не готовы

— Я в торговле 27 лет, помню свою работу еще в советское время, и, мне кажется, было намного проще. Тогда была высокая проходимость продукции, высокий покупательский спрос. Конечно, мне скажут, что продуктов было мало, поэтому все раскупали. Нет, не только. Прежде всего сегодня снизились доходы населения и, естественно, покупательский спрос. Продукция залеживается на прилавках магазинов. Мы вроде должны как-то крутиться, искать товар подешевле, который по карману покупателю, но... Государство требует, чтобы мы в обязательном порядке брали продукцию местных предприятий. Я, например, работаю с Минским мясокомбинатом, который находится на улице Казинца. Конечно, мне хотелось бы с Волковысским или Гродненским мясокомбинатом поработать Я могу получать мясо там и там, но когда приходит проверяющий, то говорит, что у меня продукции Минского мясокомбината меньше, чем того же Волковысского. А там хоть цены выше, но продукция качественнее, вкуснее, лучше продается. Да и условия сотрудничества лучше. С Минским мясокомбинатом работаем по предоплате или оплате в день поступления. Если не проплатим, идут штрафы, проценты.

Все наименования винно-водочных изделий мы должны брать обязательно на минском винно-водочном заводе "Кристалл". Вот и приходится выкручиваться, чтобы работать с другими поставщиками, например, с российскими.

**— Вам навязывают и количество товара?**

— Количество сама определяю, но оно также должно быть в пропорциях. Например, молочные продукты нужно в обязательном порядке брать на местных молочных комбинатах. Я работаю со 2-м и 3-м минскими молочными комбинатами, с Минским хладокомбинатом. Последнему мы отдаем дополнительно десять процентов к оплате.

**— Какую роль играют хладокомбинаты?**

— Эти предприятия, по сути, не нужны. Сегодня мы можем работать напрямую с производителями и без этой десятипроцентной надбавки. Например, птицу можно получать прямо с Дзержинской птицефабрики. Но практически весь ассортимент Хладокомбината мы должны иметь у себя в реализации. Если же я не там возьму, скажем, прямо с птицефабрики, получаю предупреждение, выговор, а то и лицензии лишат. У нас с ними еще одна проблема — возврат тары. Она дорогая, но сдать ее обратно не можем.

**— Значит, хладокомбинаты себя как структура изжили?**

— Несомненно, это обуза для торговых предприятий.

**— А перед Министерством торговли когда-нибудь ставился вопрос об этом?**

— Постоянно, на всех совещаниях и на Коллегии Министерства. Их выгодно держать, так как они имеют дополнительные 10 процентов к сумме поставок. А для нас это еще и удорожание продукции. Она, естественно, залеживается.

**— Другие подобные структуры существуют в стране?**

— Да. Белбакалея сегодня не нужна. Я вполне бы могла закупить, например, сахар, муку, сигареты прямо у производителя. А так платим еще 10 процентов надбавки, но если проверяющие установят, что я не работаю с Белбакалеей, у меня будут большие проблемы. Но если я буду работать только с Хладокомбинатом и Белбакалеей, я вылечу в трубу. **Почему сегодня торговля продовольственными товарами приходит в упадок? Мы содержим много едоков.** Именно потому, что нам Министерство устанавливает очень жесткие условия. У нас мало вариантов для развития.

Во-первых, обязательная продукция Хладокомбината или Белбакалеи с десятипроцентной надбавкой по оплате. Во-вторых, торговые наценки сейчас снизили до 10 процентов. В-третьих, ценовая политика у нас жесткая. Закупать продукцию мы должны по ценам, установленным Министерством торговли. Например, картофель сейчас берем по цене не выше 220 рублей за килограмм, свинину — по 3900 рублей за килограмм.

Вот и пришли к такому результату, что магазины становятся убыточными. Особенно терпят крах большие универсальные магазины.

**— А как вы контролируете качество продукции? Сейчас много говорят о товарах, которые производятся "в соседнем подвале".**

— Мы работаем только с теми фирмами, которые зарекомендовали себя на рынке. Это основная гарантия того, что не проколешься. Каждый руководитель как-то умудряется сопоставлять иногда несопоставимое.

**— Недавно подписан договор между Беларусью, Россией, Украиной и Казахстаном о свободной экономической зоне. Вот хлынет сюда товар более качественный, а у вас возможности ограниченные. Желание закупить иностранную продукцию есть, но магазин затоварен обязательно продукцией наших производителей. Что будете делать?**

— Торговля к этому не готова. Возможно, наши предприятия станут производить более качественные продукты. Но, во всяком случае, прессинг со стороны Министерства торговли будет тот же: почему берете чужое, а не наше. И ссылайся не ссылайся на соглашение, им все равно. Мы не готовы еще к рынку.

### Бред или реальность?

Эти заметки я показала первому заместителю начальника Главного управления потребительского рынка (ГУПР) Мингорисполкома Владимиру Мирголовскому. Первая его реакция была бурной и экспрессивной: "Бред! Кто это написал? Это же чистейшей воды бред. Не стану даже комментировать". Потом все же согласился, что отрицание без аргументов недостойно государственного человека. Попросил оставить материал для письменного ответа.

Неделю Владимир Николаевич ссылался на страшную занятость и отсутствие возможности заняться комментарием. И, в конце концов, заявил, что негосударственной газете не будет ничего говорить. Пришлось провести ликбез насчет того, что "Народная воля" — это издание с частной формой собственности, но с государственной лицензией, и напомнить Владимиру Николаевичу, что он руководит торговыми предприятиями, восемьдесят процентов которых также имеют частную форму собственности. Напомнила и слова министра торговли Александра Куличкова, сказанные им при обсуждении проекта закона "О торговле": "Нет государственной или частной торговли. Есть субъекты хозяйствования". После чего господин Мирголовский бросил трубку.

Попробовала связаться с самим начальником ГУПРа Михаилом Евтуховским. Но секретарь ответила, что он из отпуска вышел и сразу же уехал в командировку, возвратится только на следующей неделе. Тут же перезвонила референту, и она ответила, что Михаил Михайлович в командировку не уезжал, а в настоящее время находится в горисполкоме и скоро будет. Поняв, что история с комментированием проблем торговли обещает перерасти в банальный детектив, решила больше никого не беспокоить, так как, вероятно, руководителям ГУПРа просто нечем опровергать очевидное.

А реальность в том, что торговля продовольствием сегодня действительно серьезно больна. И это признается на самом высоком уровне. Замминистра торговли Владимир Чигирь как-то весной, выступая в Овальном зале Палаты представителей на слушаниях по приватизации, говорил, что многие приватизированные торговые предприятия работают эффективно, но в целом отрасль, к сожалению, пока нерентабельна. Особенно в первом квартале плохо сработали. Он так и выразился: "Это мягко сказать — с убытками". Новые собственники, отметил он, вынуждены перепродавать или перепрофилировать торговые предприятия. Добавим, даже новый закон о торговле не улучшил положения. Помнится, когда он обсуждался, депутаты активно сражались против усиления государственного контроля, и им-таки удалось добиться некоторых успехов, была снята целая глава, в которой предусматривалась сильная государственная рука. Но закон действует, и, как видно, действует и усиленный государственный контроль.

И он проявляется на всех уровнях государственной вертикали. Если в Минске фонды распределяются с учетом интересов минских производителей, то в Гомеле — гомельских, Светлогорске — светлогорских и т.д. Летом сама была свидетелем такого распределения. В светлогорских магазинах вдруг разом исчезла творожная масса с фруктами по 600 рублей за упаковку производства Вилейского молочного завода, но появилась производства местного молочного завода, хоть по качеству и хуже (это мое личное мнение, как потребителя), однако на 250 рублей дороже. Постоянные покупатели дешевого творожка вилейского производства заволновались и стали допрашивать продавцов, почему исчезло любимое лакомство. Им ответили: мол, нет холодильных установок, чтобы привозить этот скоропортящийся товар издалека. И местный творожок стал залеживаться на прилавках. Более высокая цена здесь, конечно, сыграла важную роль. Люди недоумевали: "Почему местный творожок стоит наполовину дороже привезенного?". В октябре к общему ликованию наших малоимущих пенсионеров на прилавках светлогорских магазинов снова появился вилейский продукт. Холодильники закупили? Конечно, нет. Когда я обсуждала этот вопрос с местными торговыми работниками, они также сетовали на жесткое регламентирование ассортимента по территориальному признаку.

Если такая жестокая борьба за сохранение территориальных приоритетов идет на внутреннем белорусском рынке, то что будет, если товар хлынет из России, Украины, Казахстана? Я, например, предпочла бы красное полусладкое или сухое вино из Крыма. И не разлитое на минском "Амбасадоре" или в Смолевичах. Думаю, и хозяин магазина это понимает. Но сможет ли он поступиться интересами местного производителя? Не дадут!

Владимир Николаевич не хочет признавать, что люди бегут из торговли. "Лучше податься в сторожа, чем оставаться в этом кошмаре". Так говорила мне бывший директор магазина с почти сорокалетним стажем работы в торговле. За все время работы она поменяла только три магазина, прошла путь от простого продавца до руководителя магазина, окончила торговое училище, а позже — Институт народного хозяйства. И ушла на пенсию из государственного магазина, так как не хотела работать в частном.

Господин Мирголовский, возражая по поводу бедности нашего покупателя, приводит в качестве аргумента увеличение количества автомашин на белорусских дорогах. На что моя собеседница предложила написать статью о соответствии так называемой "потребительской корзинки" (теперь это называется "индекс цен") тем реальным ценам, по которым белорусы покупают продукты. Это существенное несоответствие также не назовешь бредом. Я постараюсь в скором будущем поднять эту проблему на страницах "Народной воли". А проблемы производителей сельскохозяйственной продукции или переработчиков ее? С кем им проще работать, с магазином напрямую или через Белбакалею и Хладокомбинат? Это все темы для отдельного разговора.

Когда-то я писала о торговле в Германии. Я застала время объединения страны. Видела, как социалистическая торговля бывшей ГДР входила в рыночные условия. Мой знакомый восточный немец стал директором маленького мясного магазина. Ему никто не навязывал ни поставщиков, ни методов торговли. Он сам их изучал и сам потом заключал договоры непосредственно с производителями мясной продукции. Каждое утро к его магазину подъезжала машина со свежим мясом и мясопродуктами. Обратно забирались кости и нереализованное мясо. Позже оно перерабатывалось поставщиком в колбасу, сосиски, ветчину и другие деликатесы. Зато на прилавках немецких магазинов не лежали черные мощи прошлогоднего убоя. Покупателю предлагались не кости с небольшим количеством мяса, а переливающиеся перламутром вырезка и шейная часть. Помню, долго ходила по магазинам в поисках сахарной косточки для собаки, а потом решилась спросить. Продавец посмотрела на меня с удивлением. И только, когда я объяснила, для чего они мне нужны, вынесла из подсобки целый противень "собачьей радости".

Да, у нас сегодня, если поискать, можно найти специализированный магазин (например, Волковысского мясокомбината), где продают свежее мясо. Но таких немного. Ибо магазины не могут вернуть нереализованный товар обратно производителю. "Меня заставляют брать десять килограммов колбасы. Я знаю, что она будет лежать до посинения. Но ослушаться не могу", — в один голос сетовали мои собеседники. Сейчас многие магазины открывают отделы кулинарии. В основном для переработки залежалого мяса. Но не везде они оправдывают себя. Или цены неподъемные для покупателя, или же он понимает, из какого мяса этот шницель сделан.

А казалось бы, все очень просто. Рынок диктует и качество, и количество. Скажем, белорусская модница давно предпочитает носить белье "Мілавицы" или пальто "Элемы". Почему бы ни повысить качество наших продуктов питания тем же рыночным рейтингом? Если бы не заставляли в обязательном порядке брать некачественную продукцию какого-то мясокомбината, то, может быть, задумались бы там и колбаску стали делать более вкусную. А так, зачем особенно беспокоиться, ведь все равно обяжут какой-нибудь субъект хозяйствования забрать в продажу. Осталось только заставить нас, потребителей, покупать этот продукт по местному признаку. Впрочем, это уже делается. Вспомним, например, известный указ президента, регламентирующий ввоз продуктов из-за пределов страны. Что получили? Высокие цены на овощи и фрукты и уменьшение их количества на рынках и в магазинах!

Так как же быть с подобными указами, если заработает договор "четырех" о свободном экономическом сотрудничестве?

**Людмила ОСИНСКАЯ.**

*"Кожны чалавек мае свой уласны стыль жыцця, як свой уласны нос, і было б не зусім добра здзекавацца з прыстойнага чалавека з-за яго носа, якім бы дзіўным ён ні быў".*

*Г.Лесінг, нямецкі драматург.*

*Калі жанчына вырашае нешта змяніць у сваім жыцці, яна часцей за ўсё ідзе ў цырульню. Новая прычоска — гэта не толькі новы настрой, але і новы стыль жыцця.*

*Колькі часу зоркі беларускай эстрады праводзяць каля люстэрка?*

*За-за чаго аблысеў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Сяргей Скрабец?*

*Колькі грошай гатовы аддаць вядомыя людзі за адну стрыжку?*

*Пра гэта і іншае — у чарговым выпуску* **"Стыля жыцця".**

*Ірына ДАРАФЕЕВА:*

# «Быць бландзінкай — гэта легкадумна»

*Спявачка* **Ірына Дарафеева** *ніколі не робіць прычоску і манікюр за гадзіну да пачатку канцэрта.*



Апошнія гады Ірына Дарафеева карыстаецца фарбамі для валасоў толькі адной фірмы — "L'oreal perfomance". Але фарбуецца толькі ва ўласны колер: для таго, каб зрабіць яго ярчэй.

Спрабавала Ірына эксперыментаваць і з іншымі колерамі.

*"Напрыклад, гадоў у 17 у мяне было мелiраванне,* — расказвае яна. — *У той час усім чамусьці хацелася быць бландзінкамі. Але, пасталеўшы, я зразумела, што быць бландзінкай — гэта легкадумна. Дый і мужчыны да бландзінак звычайна ставяцца не так, як мне хацелася б, каб ставіліся да мяне. Я — шатэнка і мой колер дазваляе мне адчуваць сябе ідэальна".*

Фарбаваць свае валасы спявачка дазваляе толькі аднаму цырульніку.

*"Я працую з гэтым майстрам ужо некалькі год,* — гаворыць Ірына. — *Яна даволі вядомы спецыяліст, абслугоўвае многіх знакамітых беларускіх артыстаў, у яе салідная кліентура. Я выбрала яе яшчэ і таму, што не люблю, калі цырульнік доўга працуе над маімі валасамі. У яе ўсё атрымоўваецца лёгка, прыгожа і хутка. Амаль перад усімі сур'ёзнымі канцэртамі, здымкамі я абавязкова звяртаюся да яе паслуг. Яна ўжо лепш ведае, чаго я хачу, адчувае мой настрой і характар.*

*Аднак за гадзіну да пачатку канцэрта я ніколі не буду фарбаваць валасы альбо рабіць прычоску. Я імкнуся ўсё рабіць напярэдадні. Уся падрыхтоўка звычайна праходзіць у вольным рэжыме, каб гэта ні ў якім разе не адбілася на творчасці. На першым месцы для мяне стаіць вакал, распевы, рэпетыцыі, маральная падрыхтоўка да выхаду на сцэну. На ўласным вопыце ведаю: калі я праз некалькі хвілін пасля завяршэння прычоскі адразу выскокваю на сцэну, гэта прыводзіць да непатрэбных вынікаў".*

Дарэчы, Ірына Дарафеева мае не толькі свайго цырульніка, але і стыліста, візажыста, манікюршу.

**Евеліна КРУПЕНЬКІНА.**

*Сергей СКРЕБЕЦ:*

# «Лысина украшает мужчин»

У депутата Палаты представителей **Сергея Скребца** в молодости была кличка Блондин.

*"Раньше у меня были светлые и вьющиеся волосы,* — говорит Сергей Николаевич. — *В школе и институте я носил длинные волосы. Из-за них страшно не хотел идти в армию: боялся, что меня там постригут. Но видите, как в жизни бывает..."*

Первые признаки облысения появились у Скребца на третьем курсе института.

*"Скорее всего это наследственное,* — рассказывает депутат. — *По материнской линии у меня и дед лысый, и дядя. В институте я активно занимался физкультурой. Мама мне всегда говорила: "Сынок, брось дзюдо, все волосы о татами вытрешь". Я дзюдо занимался пять лет. Может, и вправду из-за этого облысел?.."*

После окончания института, когда волосы Скребца заметно поредели, он стал коротко стричься.

*"А годам к тридцати у меня уже была нормальная лысина,* — улыбается Скребец. — *И я, кстати, ничуть не комплексовал из-за этого. Молодым, конечно, немного смущался. А потом понял, что выпадение волос у мужчины — это такой же естественный процесс, как старение. И что мужчине не очень идут длинные волосы, особенно если у него серьезная профессия. Другое дело — артисты...*

*Если уж быть совсем откровенным, то я никогда не завидовал тем, у кого нет лысины. На мой взгляд, некоторых мужчин лысина даже красит, она придает им некоторую сексуальность. И я, как мне кажется, отношусь именно к таким мужчинам. И вообще, теперь я уже просто не представляю себя с другой прической".*

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

*Марта СКАВІНСКАЯ:*

# «Телебачанне змяніла мой імідж»

*Усе, хто працуе на тэлебачанні, ведаюць, што добры знешні выгляд — залог поспеху. Гледзячы на дыктараў тэлебачання, мы ў першую чаргу звычайна звяртаем увагу на знешні выгляд.*

***Марта Скавінская**, вядучая выпуску спартыўных навін, распавяла мне падрабязнасці стварэння іміджа тэлевядучай.*

**— Марта, хто працуе над тваім іміджам?**

— На СТБ, як і на любым іншым тэлеканале, працуюць стылісты. Менавіта яны і займаюцца стварэннем іміджа. У нас працуюць цудоўныя прафесіяналы, я ім цалкам давяраю. Яны падбіраюць мне стрыжкі і колер валасоў.



*Марта Скавінская да і пасля працы стылістаў.*

**— І як даўно ў цябе кароткая стрыжка?**

— СТБ цалкам змяніла мой імідж. Дагэтуль у мяне былі доўгія валасы. Звычайна я фарбавалася ў рыжы колер. Але потым давялося падстрыгчыся. Іншы раз я зайздрошчу дзяўчынам з доўгімі валасамі, але разумею, што кароткая стрыжка для мяне з-за шалёнага рытма жыцця — ідэальны варыянт. Нават калі не хапае часу на спецыяльную ўкладку, валасы ўсё роўна ў парадку. Гэта — адзінае суцяшэнне.

**— Да кожнага вядучага стылісты падыходзяць індывідуальна?**

— Так. Напрыклад, у грымёрцы побач са мной амаль усім падкручваюць валасы, а мне — распрамляюць спецыяльнымі прыладамі.

**— У чым, на твой погляд, поспех вядучай?**

— Трэба проста любіць сябе і тое, чым ты займаешся.

**Ольга МАЙ.**

*Ольга БАРАБАНЩИКОВА:*

# «Ищу спутника жизни»

Из всех белорусских спортсменок лишь теннисистка-красавица **Ольга Барабанщикова** получала предложение сфотографироваться для журнала *"Playboy"*.

По словам Ольги, никаких особенных причесок и укладок для съемок она не готовила.

— *Полностью обнаженной сниматься для "Playboy" я отказалась,* — говорит Ольга. — Я поставила два условия: только топлесс и только черно-белые фотографии. Американцы согласились. Но съемки все равно не состоялись. Во-первых, мой тогдашний парень был против. Сначала он якобы выступил "за", так как "Playboy" платил серьезные деньги, но потом резко пересмотрел собственную точку зрения. А во-вторых, родители не подозревали о моих планах, а если бы узнали, то однозначно не одобрили бы их. Я отменила съемку в последний момент, когда мой багаж уже был в самолете...



*Никаких особенных причесок для "Playboy" не готовила. Вообще, в салоны я хожу довольно редко, только если собираюсь на какое-нибудь важное мероприятие (маникюр и педикюр — не в счет)... За волосами ухаживаю обыкновенно: всегда использую шампунь, кондиционер, иногда делаю маски. Прически и мелирование делаю на дому у одного знакомого мальчика. Я полагаюсь на его вкус. Несколько раз мне приходилось бывать в зарубежных парикмахерских. Например, когда жила в Лондоне. Пару раз обслуживалась в Америке. На мой взгляд, обслуживание за рубежом мало чем отличается от нашего. Разве только ценами. И рабочие места парикмахеров оборудованы получше, чем у нас. А еще они к клиентам относятся более дружелюбно, чем наши мастера".*

В ближайшие полтора месяца Ольга Барабанщикова будет жить в Минске.

— *Я обожаю этот город!* — восклицает она.

Пока Ольга живет вместе с родителями, но через пару месяцев она намеревается отпраздновать новоселье — новая квартира известной теннисистки находится в доме напротив "Паркинга".

— *Я полностью ушла в эту стройку,* — говорит Ольга. — *С нетерпением жду, когда это закончится. По идее, уже все должно было быть готово, но... У нас так всегда бывает.*

В личной жизни у Ольги Барабанщиковой никаких изменений не произошло: замуж она пока не вышла.

— *Я сейчас одна,* — говорит Ольга. — *Уже несколько месяцев без молодого человека. Как говорится, ищу спутника жизни...*

**— Оля, если мы это напечатаем, редакцию забросают письмами Ваши многочисленные поклонники...**

— *Я не против* **(смеется)**. *Рассматриваю любые предложения.*

Так что поклонники Ольги Барабанщиковой, дерзайте! Письма для Ольги присылайте на редакционный адрес с пометкой **"Роман со звездой".** А мы их передадим известной теннисистке. И кто знает — вдруг случится любовь?

Самые интересные письма будут опубликованы в "Народной воле".

**Марина КОКТЫШ.**

ПРЕЙСКУРАНТ

## В «Дессанже» цены зашкаливают...

*Красота, как известно, требует не только жертв, но и средств. И причем немалых. Яркий пример — единственный салон класса "люкс" в Минске "Жак Дессанж".*

***Стрижка*** в салоне "Жак Дессанж" стоит **от 48 000** рублей.

***Стрижка с укладкой* — от 69 000.**

***Модельная прическа* — от 68 000.**

***Химическая завивка* — от 110 000.**

***Мелирование* — от 95 000.**

***Окраска* — от 88 000.**

***Лечебное мытье волос цветными глинами "фитодесс"* — от 19 000.**

***Лечебные ритуалы "Керастаз" (питание, восстановление, стимуляция роста волос, очищение кожи головы)* от 24 000.**

***Маникюр* — от 27 000.**

***Аппаратный педикюр* — *от 53 000.***

Детям, студентам, постоянным клиентам "Жак Дессанж" и тем, кто посещает несколько специалистов в один день, предусмотрены скидки от 10 до 30 процентов.

### Сравним

Например, в салоне **"Мечта"** *маникюр* стоит 7630 рублей.

*Стрижка с укладкой* — 15520, стрижка с сушкой под сушуаром — 8680. Та же *стрижка, но с укладкой феном без лака, геля или пенки для волос* обойдется в 12500, *с лаком и прочими препаратами* — 15520.

А **в самой обычной парикмахерской объединения "Восход"** по ул. Сурганова, 40 цены на услуги такие: *стрижка* — 8120, *стрижка с укладкой* — 15890, *мелирование* — 14000, *окраска* — 8000, *маникюр* — 6540.

**Ольга МАЙ.**

*Іна АФАНАСЬЕВА:*

# «Кароткая стрыжка — не мой стыль»

Апошнім часам спявачка **Іна Афанасьева** наведвае салон "Прикосновение".

*"Я задаволена тым, як мяне абслугоўваюць,* — гаворыць Іна. — *Раней я набывала фарбу для валасоў у кіёсках ці на фірмах, і мне не вельмі падабаўся вынік. Апошні раз увогуле валасы перапаліла... Відаць, усё ж такі шмат падробак трапляецца...*

*Кароткая стрыжка была ў мяне ў школе. Потым я насіла толькі доўгія валасы. Кароткія валасы — не мой стыль. Калі стану старэнькай, напэўна, кардынальна змяню імідж і пастрыгуся. Бабулька з доўгімі валасамі, на мой погляд, выглядае крыху смешна..."*



ЭКСКЛЮЗИВ

*Александра КИРСАНОВА:*

# «Не дергайте меня за волосы!»

*Первое, на что обращаешь внимание во время выступления популярного белорусского дуэта* ***"Александра и Константин"***, *— длинные красивые волосы* ***Александры Кирсановой*** *и* ***Константина Драпезо.***

*Во время беседы с ними журналист "Народной воли" неожиданно выяснила, что певица* ***Александра Кирсанова*** *вообще не прибегает к услугам парикмахеров и визажистов. "Дотрагиваясь до моих волос, люди забирают мою энергию", — говорит она.*

*А* ***Константин Драпезо*** *не так давно вообще был почти лысым...*

**— Александра, сегодня многие звезды эстрады предпочитают делать стрижки, красить волосы во всякие экстремальные цвета...**

— Покраска не так уж и плоха. Я, между прочим, и сама была бы не против каждый месяц менять цвет волос, но стрижка... Я считаю, что если хочется стрижку — купи парички, спрячь под него свои длинные волосы, а потом, когда захочешь "сменить имидж", распусти их. Я, кстати, никогда не носила стрижку.

**— А Вы, Константин?**

*Александра:* Когда мы познакомились, Костя был почти лысым и с усами. Я предложила ему отрастить волосы. И сейчас вы видите, до чего я его "довела"...

*Константин:* Тогда у меня было совсем другое отношение к жизни и действительно другой внешний вид. Сейчас поменялось и первое, и второе.

**— Александра, а кто занимается покраской Ваших волос? Мне кажется, самой это делать довольно сложно...**

— Мой парикмахер — мама. Она красит меня постоянно.

**— А в каком возрасте Вы впервые стали блондинкой?**

— Блондинкой я становилась постепенно. Сначала было мелирование, потом покраска отдельных прядей. Это было лет в 16. Потом светлые пряди становились все шире и шире, пока я целиком не стала блондинкой, о чем до сих пор ни разу не пожалела.

Всякие экстремальные цвета я не могу себе позволить из-за длины волос, да и на каждый день, мне кажется, они не подходят. На мой взгляд, если хочется чего-то необычного, лучше купить искусственные пряди и вплести их в волосы. Или носить парик.

**— У Вас много париков?**

— Нет, пока только у подруг примеряла. Парик ведь не на каждый день. Его нужно надевать по какому-то особому случаю. Когда-нибудь, может, я и заведу себе коллекцию париков...

**— Часто ли Вы наведываетесь в салоны?**

— Нет. Я считаю, что салоны — это просто бесполезное выкачивание денег. Подравнять волосы, подстричь концы можно и в обыкновенной парикмахерской. А что касается укладки, я не люблю городить из волос "домики". Я вообще не люблю укладки. Они мне мешают. Особенно на сцене. Когда у меня во время выступления на голове что-то непонятное, не происходит единения с космосом. Наверное, своими волосами я чувствую окружающую среду, как кошка усами...

**— Ухаживать за длинными волосами всегда очень сложно. Интересно, сколько времени Вы каждый день проводите перед зеркалом?**

— Расчесывание занимает у меня не менее 20 минут, особенно если в ветреную погоду выхожу гулять с распущенными волосами. Это такая жуткая боль, что я стараюсь перед прогулками заплетать косички или делать хвост.



Много проблем с волосами возникает на гастролях. Их приходится постоянно мыть, а график концертов, как правило, очень плотный: утром приехали, потом сразу репетиция, концерт. В отель приезжаем поздно вечером. Когда нужно ложиться спать, я начинаю мыть голову. А так как феном не пользуюсь, чтобы волосы не испортить, сохнет она у меня около 3 часов. Из-за этого постоянно недосыпаю.

**— А у Вас, Константин, время от времени не возникает желания снова постричься налысо?**

— Нет. Я — артист, поэтому должен следить за своим имиджем. Да и Александра мне в свое время объяснила: чтобы волосы выглядели аккуратно, нужно пользоваться хорошим шампунем, расчесывать их несколько раз в день. Сначала было сложно, но потом привык.

*Александра:* Я люблю расчесывать Косте волосы, хотя это ему иногда не нравится и он на меня ворчит.

**— К народным средствам по уходу за волосами когда-нибудь прибегали?**

*Константин:* Мне мама всегда для ополаскивания волос заваривала ромашку.

*Александра:* В юности я пользовалась березовым отваром. Еще как-то школьницей попробовала популярный рецепт укрепления волос, в состав которого входят яйцо и мед. Я эту смесь с головы часа два смывала. После этого с народными средствами больше не экспериментировала.

Вообще, я считаю, что нужно использовать качественные, проверенные средства для ухода за волосами. Например, после одного некачественного шампуня у меня стали резко выпадать волосы, я даже к докторам собралась обратиться... После этого случая я всем советую не покупать шампуни в киосках и на рынках. Вместе с таким шампунем можно приобрести большие проблемы на свою голову.

**— Александра, говорят, Вы ненавидите, когда кто-то прикасается к Вашим волосам. Это правда?**

— Думаю, вы тоже не любите, когда посторонний человек вдруг начинает вас дергать за волосы. Я считаю, что, дотрагиваясь до моих волос, люди забирают мою энергию. Поэтому, кстати, я не прибегаю к услугам парикмахеров, да и визажистов не больно жалую. И прошу: "Не дергайте меня за волосы!"

**Мария РУСАКОВИЧ.**

ПРОФЕССИОНАЛЬНЫЙ ВЗГЛЯД

# «Сделайте меня лет на десять моложе»

*Какие прически сегодня выбирают мужчины?*

*Почему мужчины стали чаще красить волосы?*

*Стоит ли верить рекламным роликам, рекламирующим "удивительные шампуни"?*

*Об этом специально для "Народной воли" рассказывают парикмахеры столичного* ***салона "Александрина"*** ***Оксана Салько*** *и* ***Оксана Селенко.***

По словам **Оксаны Селенко**, сегодня невозможно однозначно заявить: в моде короткие стрижки. Или мелирование.

*"Модно прежде всего то, что идет конкретному человеку,* — утверждает Оксана. — *Если анализировать какие-то общие тенденции, то сегодня актуальны крайности: одинаковым спросом пользуется и химия на недлинные волосы, чтобы они торчали во все стороны, и совсем гладкие волосы.*

*Актуальны короткие, хорошо профилированные стрижки. Кстати, многие ошибочно полагают, что филировка портит волосы. Филировка их облегчает, помогает им правильно лечь. Другое дело, что слегка меньше нужно филировать вьющийся волос".*

*"Я уверена, что короткая стрижка пойдет абсолютно всем,* — добавляет **Оксана Салько**. — *Нужно просто профессионально подобрать модель, учесть форму лба, носа.*

*Также актульны стрижки на основе сессонов (а-ля Мирей Матье) и "волчицы" (удлиненный затылок, длинные хвосты, макушка и теменная зона — более короткие).*

Что касается цвета, то, по словам мастеров, многие выбирают все-таки более естественные тона, с эффектом выгоревших на солнце волос.

*"Хотя все весьма относительно,* — говорит **Оксана Селенко.** — *Молоденькие девочки часто просят сделать яркие пряди, некоторые совсем предпочитают ядовитые цвета. Опять же: кому что идет...*

*Из окрасок в моде тонирование корней. Если раньше, например, корни и концы красили в темный цвет, а основной цвет волос был светлым, то теперь контраст менее заметен. Цвет просто играет".*

Что делать, если вы не уверены, пойдет вам этот цвет волос или нет?

*"В некоторых салонах есть услуга компьютерного подбора причесок,* — рассказывает **Оксана Салько.** — *Если нет возможности подобрать прическу на компьютере, я рекомендую своим клиентам сходить на выставку и примерить несколько париков, чтобы определиться и с цветом волос, и с моделью прически".*

По словам парикмахеров, никогда не выходила из моды челка. Менялась только ее форма.

*"Например, сейчас крайне актуальны короткие челки и открытое лицо,* — говорит **Оксана Селенко.** — *Знаю, что некоторых смущает совсем короткая челка, но ведь можно сделать двойную челку (короткую и длинную одновременно). Кстати, короткие челки особенно хороши на узкий лоб. Еще в моде длинные, густые, квадратные челки от самой макушки".*

*"Дамы в возрасте часто просят: "Сделайте меня лет на десять моложе". В таких случаях иногда прическу практически не меняешь, сделаешь оригинальную челку — и клиентка улыбается: "Действительно помолодела!",* — добавляет **Оксана Салько.**

**Мужские прически вплотную приблизились к женским**, — такой вывод делают стилисты "Александрины".

*"Безусловно, классические короткие стрижки, так называемые "площадки", по-прежнему в моде,* — рассказывает **Оксана Селенко.** — *Но, по моим наблюдениям, сегодня молодежь и некоторые респектабельные мужчины в возрасте до сорока лет выбирают стиль певца Авраама Руссо — у него типичная объемная стрижка с удлиненным, толстым затылком и укороченными висками.*

*Еще мужчины стали больше краситься. Лично я к этому спокойно отношусь. Если мужчине не нравится седина, он тоже может от нее избавиться, перекрасив волосы в свой цвет".*

*"Лучше иметь своего парикмахера,* — говорит **Оксана Салько.** — *Одна и та же стрижка у разных мастеров получается поразному: у каждого свой стиль и метод работы.*

*Стричься и подкрашивать корни желательно раз в месяц. Если вы отращиваете волосы, все равно нужно периодически подстригаться, обновлять кончики волос. Иначе они истощаются, расщепляются и портят сам волос.*

*Глупости, что нельзя краситься и стричься беременным! Уже доказано, что ни стрижка, ни окраска волос на плод никак не влияют".*

Сегодня появилось много рекламных роликов, представляющих разнообразные шампуни. Волосы людей, которые их рекламируют, выглядят так хорошо, что хочется все эти средства непременно испробовать на себе. На профессиональный взгляд Салько, этого делать не стоит.

*"Самые лучшие средства по уходу за волосами — "Лонда", "Шварцкопф", "Лореаль". Эти фирмы давно работают на рынке. На мой взгляд, артисты, рекламирующие шампуни, далеко не всегда ими пользуются".*

Оксана Салько и Оксана Селенко считают, что менять прически надо под настроение.

*"Иногда можно вообще кардинально изменить образ и имидж,* — говорят мастера. — *Ведь самое главное — не бездумная гонка за модой, а индивидуальность и стиль человека".*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Той, хто ідзе да Беларусі

***Ён ідзе рашучай хадой і няўхільным шляхам — насустрач ветру, насустрач неспазнанаму. Пад яго нагамі — родная зямля, над галавой — нябеснае прадонне, за плячыма — дрэва народнага жыцця. Такой паўстае ў скульптурнай выяве, што ў Траецкім прадмесці сталіцы, прыцягальная і ў многім яшчэ дагэтуль неразгаданая постаць чалавека-легенды, імя якому — Язэп Драздовіч.***

Такой магутнай і зіхоткай асобай, якія не драбнеюць у часе і прасторы, а толькі вырастаюць і раскрываюцца ў сваёй духоўнай веліччы і невычарпальнасці, паўстаў, нібы жывы, "дзядзька Язэп" на вечарыне ў гонар 115-х угодкаў з дня яго народзінаў у памяшканні тэатра "Зьніч".

Не знаю, як каму, а мне, прызнацца, было зусім няпроста кіраваць сваёй увагай на тым вечары, які сабраў у нязмушаным, па-сямейнаму цёплым коле людзей, духоўна роднасных Мастаку. На сцэну, аздобленую казачнымі кветкамі па матывах народнай творчасці, якая жывіла натхненне вялікага сына Бацькаўшчыны, падымаліся то народны паэт Рыгор Барадулін са сваім трапным, вобразным, пранікнёным словам, то першаадкрывальнік (яшчэ ў 60-я гады мінулага стагоддзя) творчасці Драздовіча Арсень Ліс, то вядомы мастак Мікола Купава, які разам з сябрамі ўвасобіў сваю любоў да Настаўніка ў грунтоўным адмысловым выданні — альбоме-манаграфіі "Язэп Драздовіч". Даследчыкі дзяліліся роздумам аб жыццёвым і творчым подзвігу беларускага Леанарда да Вінчы — таленавітага жывапісца, графіка, пісьменніка, фалькларыста, этнографа, асветніка, вандроўніка. Мастак Аляксей Марачкін уплёў у букет юбіляру сваю незвычайную кветку — старадаўнія беларускія песні, якія выконвае ў іх аўтэнтычным, першародным, рэдка каму цяпер даступным гучанні. Да яго далучыўся маладзёжны фальклорны гурт...

Хіба можна было ўспрымаць усё гэта без надзвычайнай засяроджанасці і цікавасці? Хацелася ўсё бачыць і чуць, не прапусціць ніводнага слова. Але... Справа ад сцэны вісела карціна, якой не даводзілася бачыць раней і якая ўладна вабіла позірк.

Нічога асаблівага, як быццам, на тым сціплым палатне і няма, усё будзённа і проста: начны вясковы пейзаж са старой адрынай, пад дзіравай, бы рэшата, страхой у кутку сялянскага падворка. Не давала спакою: дзе ж, у чым той таямнічы магніт, што прыцягваў і не адпускаў ад загадкавай прастаты, за якой адчуваецца нешта значнае і глыбокае, зашыфраванае стваральнікам карціны? Можа быць, ключ да яе — зорнае неба, што ахінае зямлю крылом Вечнасці і злучае беднае чалавечае жытло з неабдымным Сусветам? А можа, чароўнае ззянне, што залівае начны падворак, сцішаны пасля цяжкіх людскіх клопатаў і турбот, зусім не ад нябачнай на палатне поўні, а струменіць з самой зямлі, ад святла душ тых, хто тут жыў і жыве?

Даруйце, шаноўныя мастакі і мастацтвазнаўцы, мой (калі можна так сказаць) глыбокі дылетантызм. Абсалютна згодна з вамі: пераказваць твор мастака — кашчуннасць! Толькі як утрымацца, каб не лавіць-адгадваць намёк на нейкі магічны знак, які ён падае табе? І не толькі — табе, кожнаму — свой, толькі яму прадназначаны.

Ды ёсць істотнае і галоўнае, на чым сыходзяцца усе, хто набліжаецца да гэтай магутнай постаці — глыбы ў скарбніцы нашай культуры, космасе нацыянальнага духу. Драздовіч так глыбока ўзворваў здзірванелую, занядбаную глебу самасвядомасці беларускага люду, так самааддана служыў яму ўсім сэрцам і талентам, што, не ўганараваны ніякімі афіцыйнымі званнямі, заваяваў найвышэйшы гонар: стаць поплеч з волатамі беларускай нацыянальнай ідэі, сейбітамі адраджэння Бацькаўшчыны — Купалам, Багдановічам, Гарэцкім...

Неўтаймаваная прага спасціжэння мінуўшчыны Айчыны, яе шляхоў у будучыню вядзе Вечнага вандроўніка па бацькоўскай зямлі, адкрывае яе нязводную красу і магутны стваральны талент продкаў. Дыяментамі зіхацяць у яго вачах жамчужыны народнага мастацтва і камяні велічных муроў старадаўніх замкаў, адмысловасць абарончых і побытавых збудаванняў. І ўсё гэта ўвасабляецца ў яго шматлікіх і разнастайных творах — графічных, жывапісных, пластычных, дзе сплаўлены ў адно гістарычная дакладнасць навукоўца-даследчыка і палёт акрыленай мастакоўскай фантазіі.

Нават і сёння цяжка ахапіць маштаб і творчую дзёрзкасць яго таленту. Ён піша гістарычны раман аб старажытным Полацку і стварае партрэтную галерэю гістарычных асоб — уладарных князёў і сваіх сучаснікаў — простых сялян. Вучыць вясковых дзетак і шчыруе дзеля папаўнення Беларускага музея Івана Луцкевіча ў Вільні фальклорнымі творамі і ўласнымі знаходкамі і замалёўкамі народнага побыту. Сам імкнецца запаліць іскрынку харства пад стрэхамі сялянскіх хат, дзе пакідаў свае насценныя маляваныя дываны з дзівоснымі кветкамі, птушкамі і рамантычнымі пейзажамі.

Гэты няўрымслівы, нястомны чалавек, што ў 20—30-я гады мінулага стагоддзя схадзіў уздоўж і ўпоперак усю Заходнюю Беларусь — ад роднай Дзісеншчыны на поўначы да Пінскага Палесся на поўдні, зведаў жыццё ва ўсіх яго праявах, але ўмеў бачыць не толькі зямлю, а і неба, сягаць на крылах багатага ўяўлення ў нязведаныя далячыні. Ён першы ў беларускім выяўленчым мастацтве распачаў касмічную тэму.

Яшчэ хлапчуком у сямейных гутарках чуў ад бацькоў не толькі развагі аб будзённых мітрэнгах, якіх вымагала цяжкая сялянская праца, а і пра загадкавасць далёкіх планет і зорак. Маці наказвала сыну: "Вучыся і спазнай Нябесныя бегі". І ён будзе вывучаць рэдкую тады для вяскоўца навуку — астраномію, каб дакрануцца да неабдымнасці Сусвету, маленькай часцінкай якога — яго Зямля... І напіша падказаную бацькамі кнігу "Нябесныя бегі", і створыць унікальны мастацкі цыкл пра сваё ўяўленне аб жыцці на Марсе, Венеры, Сатурне, Месяцы — мару аб незямной гармоніі, харастве і шчасці, якіх так нестае ў рэальнай паўсядзённасці. І знітуе сваім філасофска-мастакоўскім позіркам зямное і нябеснае, прыме ў сэрца ўвесь Сусвет.

Думка аб тым, што характарам свайго светаўспрымання беларус Драздовіч у нечым блізкі да генія французскага імпрэсіянізму галандца Вінсента Ван Гога, здаецца, мае пэўную рацыю. У абодвух вялікіх творцаў нямала агульнага, у тым ліку і ў жыццёвых рэаліях. Абодва — самотнікі, тварылі ў далёкіх ад спрыяльнасці варунках, не мелі сталага прытулку і заробку. Гэта цяпер палотны Ван Гога, які жыў у страшэннай галечы, ацэньваюцца ў мільёны доляраў (днямі прагучала інфармацыя, што "Партрэт доктара Гашэ" пайшоў на аўкцыёне за 80 мільёнаў "зялёных"). А тады, нікім не прызнаны і незразуметы, творца змог прадаць за ўсё жыццё ўсяго толькі адну карціну. Вышэйзгаданым партрэтам ягонага лекара, яму ж падараваным, той заткнуў дзірку ў куратніку...

Неверагоднае, проста-такі літаральнае супадзенне: маляўнічы драздовічавы дыван, што ўпрыгожыў мастацкае аздабленне вечарыны ў яго гонар, быў знойдзены (і затым адрэстаўраваны) знаным жывапісцам Аляксеем Марачкіным таксама... на куратніку — толькі не французскім, а беларускім!

Абодвум творцам, якія глыбока пранікалі пільным вокам і чуйнай інтуіцыяй у сэрцавіну існага, быў уласцівы не столькі знешні, колькі ўнутраны касмаганізм. Але на гэтым, здаецца, падабенства і канчаецца. На мой погляд, характар і дух увасобленага гэтымі мастакамі не проста адрозныя, яны — процілеглыя! У Ван Гога амаль усё дыхае гібельнай трагічнасцю, усё жывое і прыгожае — у адчайным супраціве нейкай злой, варожай усяленскай сіле — што ў ранніх "Таполях пры дарозе", што ў сусветна вядомых зараз шэдэўрах "Сланечнікі", "Зорная ноч", "Варанні над хлебным полем", што партрэты і аўтапартрэты.

У Драздовіча ж — наадварот: у творах — светланоснасць, жыццесцвярджальнасць, вера ў перамогу дабра над злом. І таму такія прыгожыя, поўныя харства і годнасці ў яго твары землякоў, сустрэтых на жыццёвых пуцявінах. І такія прыветныя, гатовыя прыняць у абдымкі братоў па розуме іншапланецяне — не тое што ў сучасных фантастычных трылерах-страшылках. І аднекуль з нябесных вышыняў — пасланцам Космасу — ляціць крылатая "Пагоня" — абараніць нашу зямлю ад драпежнай пачвары, што цягне да яе кіпцюрыстыя лапы...

Трагізм аднаго — у незапатрабаванасці, непераадольнай жыццёвай і духоўнай адзіноце.

Прасветленасць другога — у знітаванасці са сваёй зямлёй, сваім народам. Ён, бессярэбранік, валодаў найвялікшым багаццем — любоўю да Беларусі і пачуваўся сваім у кожнай хаце.

Такім застаецца ён і зараз для ўсіх, каму Бацькаўшчына даражэй за ўсё. Ён будзе і з нашымі наступнікамі, якія ўбачаць спраўджанай мару Мастака аб дасканалым, гарманічным свеце. І таму будзе вечна ісці да людзей, да сваёй Беларусі.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

**На здымку:** *твор Язэпа Драздовіча "Космас".*

## За крадзеж рэдкіх кніг — 10 год пазбаўлення волі

*Суд Ленінскага раёна горада Мінска — суд першай інстанцыі — прыгаварыў арганізатараў выкрадання рэдкіх кніг з Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да 10 і 9 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Яшчэ двое ўдзельнікаў злачыннай групы, непасрэдныя выканаўцы злачынства, асуджаны да 5 і 3 гадоў пазбаўлення волі. Ва ўсіх асуджаных будзе канфіскавана маёмасць. Прысуд пакуль не ўступіў у законную сілу і будзе абскарджаны адвакатамі ў судзе вышэйшай інстанцыі. Аб гэтым паведаміла Агульнанацыянальнае тэлебачанне (АНТ).*

Нагадаем, што крадзеж 12 рэдкіх кніг з Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі быў здзейснены 23 красавіка гэтага года. Знікненне яшчэ чатырох выданняў выяўлена пасля рэвізіі фондаў Нацыянальнай бібліятэкі. Выявіць злачынцаў і вярнуць кнігі праваахоўным органам Беларусі ўдалося даволі хутка. Ужо 5 чэрвеня 15 кніг, якія злачынцы паспелі вывезці ў Маскву, начальнік Следчага камітэта МУС **Леанід ГЛУХОЎСКІ** перадаў супрацоўнікам бібліятэкі. Месцазнаходжанне яшчэ адной кнігі на той момант устаноўлена не было. Зараз паведамляецца, што замест прыжыццёвага выдання Аляксандра Пушкіна "Палтава" расійскі калекцыянер вярнуў у Беларусь першае пасмяротнае выданне кнігі Аляксандра Грыбаедава "Гора ад розуму". Сярод выкрадзеных кніг былі прыжыццёвыя выданні М.В.Гогаля "Міргарад", "Тарас Бульба, аповесць з Запарожскай даўніны", "Паходжанні Чычыкава, альбо Мёртвыя душы", выдадзеныя ў XVIII—XIX стагоддзях. Найбольшую каштоўнасць уяўляла сабой інкунабула "Herbarius", датуемая 1486 годам.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

Калектыў рэдакцыі газеты "Народная воля" выказвае глыбокае спачуванне журналісту **Уладзіміру Уладзіміравічу ГЛОДУ** ў сувязі з вялікім горам — смерцю *маці*.

## Крыжаванка

**Па гарызанталі:** 1.Выдавец першага слоўніка беларускай мовы. 5.Мантачка. 7.Хаванне, захоўванне чаго-небудзь. 8.Той, хто не мае сораму, хто парушае правілы прыстойнасці. 11.Куставая расліна сямейства ружакветных, якая скарыстоўваецца для стварэння жывой калючай агароджы. 12.Агародніна. 13.Псаванне ў працэсе дзейнасці. 17.Канат з валокнаў ці дроту. 18.Работнік народнай асветы (разм.). 19.Дзіцяня пацука. 23.Празмерная ветлівасць, да прыкрасці ласкавасць (перан.). 24.Прадаўшчыца каўбасы. 26.Паслядоўнае размяшчэнне, адно за адным. 27.Адзінства трох паняццяў. 29.Род расліны сям'і бабовых. 30.Старшыня Рады БНР з 1971 года да 1982 года Вінцэт Жук-.... 31.Сліна. 34.Бог кахання. 35.Дзялімасць. 36.Старадаўні беларускі паэт, пісар Віцебскай палаты дзяржаўнай маёмасці, які за ўдзел у паўстанні 1863—1864 гадоў быў сасланы ў Сібір. 39.Бакавіна (у калёсах). 40."... яно гарам". 42.Літоўскі паэт і мовазнаўца. 43.Уздзейнічанне чарамі, магічнымі прыёмамі на людзей.

**Па вертыкалі:** 1.Жыллё лісы. 2.Жанчына, якая знаходзіцца разам у дарозе. 3.Ахоўніца склада. 4.Утварэнне характэрных гукаў пры жаванні. 5.Летуценне. 6.Рэштка вадаёма ў дрыгве. 7.Штабель. 9.Удзельнік конкурсу. 10.Удушэнне пры дапамозе пятлі ад цяжару свайго цела. 11.Занятак гандляра. 14.Ступень наяўнасці смалы ў дрэвах. 15.Кавалак дрэва. 16.Гарбузовае націнне. 17.Мікраскапічная хіцінавая пласцінка на целе некаторых членістаногіх жывёлін. 20.Горад у Японіі на востраве Хансю. 21.Адвакацтва. 22.Час вялікай нягоды. 25.Прашыўка. 28.Месца, дзе растаў снег і агалілася зямля (памяншн.). 32.Шкляная трубачка з дном, якая выкарыстоўваецца ў лабараторнай практыцы. 33.Два вядры, звычайна з вадой (абл.). 37.Зерневыя расліны (жыта, пшаніца) на корані. 38.Алейная і кармавая травяністая расліна сямейства крыжакветных. 41.Скананне.

**Склала Ала ГРУШЭЎСКАЯ.**

### Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў №220

**Па гарызанталі:** 7.Прадмова. 8.Дзеяслоў. 11.Адпас. 12.Бусак. 13.Мігаценне. 16.Паветра. 17.Калыска. 18.Шарак. 20.Ворчык. 21.Абутак. 22.Статуя. 23.Карнік. 25.Радца. 29.Заранка. 31.Гандаль. 33.Адвітанне. 35.Пасаг. 36.Абшар. 37.Скарынка. 38.Альтанка.

**Па вертыкалі:** 1.Прыдатак. 2.Адказ. 3.Званіца. 4.Дзённік. 5.Уступ. 6.Памарака. 9.Краіна. 10.Кветка. 14.Штурханне. 15.Блытаніна. 18.Шкляр. 19.Качка. 24.Шаршатка. 26.Адліга. 27.Цырата. 28.Бляшанка. 30.Абдымкі. 31.Ганталь. 32.Багра. 34.Абцас.

НА ЗАМЕТКУ

## Дедка за репку

*Репу культивировали в Древней Греции и Древнем Риме, а славянам в старину она заменяла картофель: ее варили, жарили, пекли, квасили и ели сырой. Ценили репу и как лечебное средство. При бронхиальной астме и бронхитах готовилось такое снадобье: две столовые ложки измельченного корнеплода залить стаканом кипятка, варить четверть часа, процедить и принимать по четверти стакана четыре раза в день или по стакану на ночь. Полезен при названных болезнях и сок репы с медом, который нужно пить по столовой ложке четыре раза в день.*

Репа — продукт низкокалорийный, содержит белки, углеводы, много калия, кальций, магний, натрий, фосфор, железо, провитамин А, витамины $B_1$, $B_2$, PP и много витамина С. Блюда из репы очень полезны при сахарном диабете и ожирении, а тертая сырая репа оздоравливает кишечник. Неразведенный сок репы увеличивает образование желчи, а разбавленный на треть водой способствует лучшему опорожнению желчного пузыря. Салат из тертой свежей репы, заправленный растительным маслом, стимулирует работу желудка.

Не рекомендуется есть сырую репу при язве желудка и двенадцатиперстной кишки и зобной болезни.

Репу можно запекать в духовке в течение получаса, затем сделать в ней надрез и положить туда кусочек масла. Репу можно нарезать, ошпарить кипятком, слить воду, затем снова залить наполовину водой или бульоном, добавить соль, сахар, масло, варить еще полчаса, а перед подачей заправить маслом и посыпать зеленью. Салаты из репы заправляются майонезом, сметаной и маслом, добавляются в них вареные яйца, овощи, сырой и пассерованный лук. Но особенно вкусна фаршированная репа. Чтобы приготовить ее, нужно корнеплоды средней величины вымыть, очистить, уложить в кастрюлю и варить в подсоленной воде до полумягкости. Затем ложкой вынуть из середины мякоть, репу доварить, а мякоть смешать с манной кашей и начинить этим фаршем корнеплоды. Уложить их в сковороду, смазанную маслом, запекать в течение получаса в духовке, а перед подачей полить вареньем.

Вашим гостям наверняка понравится такое необычное блюдо, как репа, фаршированная мясом или яйцами. Репа готовится, как и в предыдущем рецепте, только мякоть смешивается либо с мелко порубленными вареными яйцами либо с мясным фаршем и измельченным луком. Фарш нужно посолить, поперчить и начинить корнеплод так, чтобы начинка выступала горкой сверху. Затем посыпать тертым сыром, полить маслом, сметаной, луковым соусом или томатным — по выбору — и запечь. Репу можно также фаршировать овощами или капустой с грибами.

Раньше финны использовали в пищу и листья репы: заквашивали на зиму, варили из них щи. И сейчас из них готовят салаты в США, Англии и других странах.

**Юлия ФРОЛОВА.**

## Вось дык «морж»!

Чарговы ўласны рэкорд плавання ў халоднай вадзе ўстанавіў вядомы віцебскі спартсмен-экстрэмал, аматар "маржавання" Станіслаў Шумякоў. Ён праплыў па Заходняй Дзвіне ў межах горада каля трох кіламетраў — ад водна-выратавальнай станцыі, што ў гарадскім парку імя Савецкай Арміі, да Кіраўскага маста.

Спрактыкаваны "морж" знаходзіўся на дыстанцыі амаль паўгадзіны ў невыносных для звычайнага чалавека ўмовах: тэмпература вады і паветра была менш за тры градусы цяпла, да таго ж ішоў снег.

У час незвычайнага заплыву Станіслава Шумякова суправаджаў кацер з выратавальнікамі. Пасля фінішу спартсмен накіраваўся дадому, каб прыняць цёплы душ. Увогуле ж віцебскі "морж"-рэкардсмен хварэе рэдка, што тлумачыць загартоўкай арганізма.

Станіслаў Шумякоў пачынае плаванне ў халоднай вадзе позняй восенню і працягвае яго нават у студзені, пасля Новага года. Летась, да прыкладу, Шумякоў не спыняў свае заплывы на працягу ўсіх Калядаў, калі тэмпература вады ў галоўнай віцебскай рацэ была блізкая да нуля.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# 28 лістапада

**ПЯТНІЦА**
Усх. 8.01 Зах. 15.55
Даўж. дня 7.54
Першая квадра
30 лістапада

**75 гадоў** з дня нараджэння А. П. Чаркасава, беларускага пісьменніка і перакладчыка



РЭХА

## Ён любіў неба

Тэлефонны званок з Мінска быў для мяне нечаканым, хоць і жаданым — на мой артыкул "Упаў самалёт за вёскай па волі пілота", надрукаваны ў жніўні г.г. у "Народнай волі", адгукнулася жонка загінуўшага ў авіякатастрофе лётчыка Міхаіла Іванавіча Круглова — Вольга Іванаўна. Падзякаваўшы за публікацыю, яна з душэўным хваляваннем падзялілася ўспамінамі пра мужа, унесла пэўныя карэктывы ў артыкул. У прыватнасці, самалёт разбіўся не 2 сакавіка 1982 года, як засведчылі мне ў гаррайвыканкаме, а 18-га, у 16 гадзін 32 хвіліны — так было занатавана кіраўніком палётаў падпалкоўнікам Іванам Васільевічам Грачовым, бацькам Вольгі Іванаўны. Яна працягвала свой успамін:

— У той дзень раніцай мы з Мішам разам вершы Пушкіна чыталі, ён вельмі любіў яго і наогул быў вясёлым, жыццялюбам, іграў на гітары, спяваў пад яе ў кампаніі сяброў-пілотаў. За дзевяць дзён да катастрофы ў нас нарадзілася дачушка, мы яе назвалі Ірынкай.

У палёт з аэрадрома ў Мачулішчах Міша вылецеў на новым, незадоўга да таго прысланым у полк знішчальніку Су-27Б. Даверылі яго яму як пілоту першага класа: машына была новай, яшчэ як след не аблятанай. Ведаю адно: тата заўсёды перад палётамі напамінаў яму, што калі здарыцца сур'ёзная непаладка з машынай, не забывацца пра магчымасць катапультавання. Але Міша, як мне стала вядома пасля катастрофы, бачыў пад крыламі падаючага самалёта вёску і, разумеючы, чым можа скончыцца падзенне машыны з амаль поўнымі бакамі, адвёў яе ўбок, у поле.

...Праз два гады пасля смерці мужа і бацькі Вольга Іванаўна мусіла пераехаць у Мінск, працуе педагогам у школе. З дарослай ужо дачкой праведваюць месца падзення самалёта, ускладаюць кветкі. Вось і нядаўна пабывала там і была засмучана, што невядомыя вандалы разбурылі абеліск і агароджу вакол яго.

У мяне пасля гэтай размовы па тэлефоне была сустрэча са старшынёй раённага Савета дэпутатаў Клаўдзіяй Васільеўнай Шпакоўскай, ёй я перадаў просьбу Вольгі Кругловай — аднавіць абеліск. Яна адказала, што пасля публікацыі артыкула ў газеце яна ў курсе спраў і што выканкам і райсавет адшукаюць сродкі для аднаўлення абеліска. Будзем спадзявацца, што так і будзе.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

*г. Слуцк.*

## Пятница, 28 ноября

### БТ

**07.00, 8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 8.10** "Доброе утро, Беларусь!" Информационно-музыкальная программа.
**08.45, 12.10, 16.45, 18.45, 23.30** "Моя страна".
**09.05** Авантюрно-исторический сериал **"Саломея"** (Россия).
**10.05, 17.10** Сериал **"Тайны четырех преступлений"** (Италия). Фильм 4-й **"Похороны вместо свадьбы".** 2-я серия.
**11.10** Детективный сериал **"Нож в облаках"** (Россия). 4-я серия.
**12.25** Приключенческий боевик **"Шанхайский связной"** (Гонконг).
**14.00** Слово Митрополита Филарета на начало Рождественского поста.
**14.20** "На перекрёстках Европы". Национальный телефестиваль песни.
**15.10** Приключенческий сериал **"Амазонка"**.
**16.05** "5 х 5". Программа для молодежи.
**18.05** "Славянский базар в Витебске-2003". Избранное.
**19.05** Фантастические приключения **"Пришелец из будущего"**.
**21.00** "Панорама". Информационный канал.
**21.40** Специальный репортаж. "Ломка вне жизни".
**21.55** Триллер **"Страстная неделя"**.
**23.45** Комедия **"Молчание ветчины"** (США).

### ОНТ

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.55** Наши новости.
**08.05** Телеканал "Доброе утро".
**09.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**09.45** Детектив **"Высокоинтеллектуальное убийство".**
**11.00** Детский сериал **"Твинисы".**
**14.40** Тайны века. "Эдуард Стрельцов. Зона для центра нападения".
**15.25, 21.05** "Фабрика звезд-3".
**15.45** "Угадай мелодию" с Валдисом Пельшем.
**16.10** Сериал **"Берег мечты".** 64-я серия.
**16.55** "Последний герой".
**18.15** "Сканер".
**18.20** "Без срока давности". "Бриллиантовая лихорадка". Документальный детектив.
**18.50** "Поле чудес" с Леонидом Якубовичем.
**20.00** Время.
**22.35** Что? Где? Когда?
**00.15** Остросюжетный фильм **"Зеленый дракон".**

### РОССИЯ

**07.45** Телесериал **"Линии судьбы".**
**08.45** Аншлаг.
**09.45** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 19.00** Вести.
**18.00** Выборы-2003.
**19.30** Местное время. Вести—Москва.
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.55** Народный артист.
**20.50** Премьера. "Веселые каникулы "Аншлага". Часть 1-я.
**23.20** Результаты голосования — "Народный артист — Ваш выбор!"

### ЛАД

**07.00, 14.00, 20.00** Новости.
**07.10** "Уроки тетушки Совы. Азбука-малышка". Мультфильм.
**07.15** Познавательный фильм "Грусть дельфина".
**08.10, 22.10** Сериал **"Петербургские тайны"** (Россия).
**09.00** "Свет далекой звезды. Евгений Глебов". Авторская программа Александра Домарацкого.
**09.30** "Пой, душа!" Фольклорные коллективы Браславского района.
**10.00** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.20, 21.15** Детективный сериал **"Приключения Шерлока Холмса".**
**11.15** "Обычный необычный день". Семейный канал.
**11.50, 18.15** Художественный фильм **"Атланты и Кариатиды".**
**13.20** "Время кино".
**13.50** Видеофильм **"Верхний город. Записки современника о Минске".**
**14.10** "Москва — Минск".
**14.25** Любимые сказки. **"Доктор Айболит"** ("Союздетфильм").
**15.30** "Время кино".
**16.00** Армейские приключения в художественном фильме **"Приказ".** 1-я и 2-я серии.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".

### НТВ

**09.00** Сегодня утром.
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** Фактор страха.
**10.15** Ток-шоу "Страна советов".
**11.00, 16.00** "Сегодня" с Кириллом Поздняковым.
**14.35** "Сила проклятья". Ток-шоу "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Она написала убийство"** (США).
**17.30** "Национальная безопасность: братский рубеж". Расследование НТВ.
**18.00** "Сегодня" с Татьяной Митковой.
**18.35** "Свобода слова" с Савиком Шустером.
**20.20** Остросюжетный фильм **"Возврата нет".** (США).
**22.45** Супербокс: Демаркус Корли против Заба Джуды.
**23.40** Ночные музы.

### СТВ+RenTV

**06.25, 15.25 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Телесериал.
**06.50** "Трансформеры". Мультипликационный сериал.
**07.20** Мультипликационный фильм.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт".
**08.00, 18.05** "Минщина. Люди, события, факты".
**08.15, 20.15** "Минск и минчане".
**08.25, 23.05** "Технология".
**08.40** Боевик **"Опасные особи".**
**10.10** "Автопанорама".
**10.30** "Театральные истории".
**10.45** "Канал истории": "Нострадамус — предсказатель судьбы". Документальный фильм.
**11.30** "Дикая планета": "Новые заповедники". Документальный фильм.
**12.00 "Истинная любовь".** Теленовелла.
**12.55** "Мировые розыгрыши".
**13.50, 18.30 "NEXT-3".** Телесериал.
**15.00** "Супершоу братьев Марио". Мультипликационный сериал.
**15.50** "Маска". Мульт сериал.
**16.20** "Тема дня".
**16.50** Детектив **"Колье Шарлотты".** 3-ая серия.
**18.20** "Светская хроника".
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.25** Детский экран. "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Автопанорама".
**20.55** Комедия **"Четвертый тенор".**
**23.15** "Реактивный бокс".
**23.35** "Новости СНГ".
**23.50** "Хит-момент. Итоги месяца".
**00.05** Остросюжетная драма **"Гонщик".**

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45** Вестерн **"На несколько долларов больше".**
**19.40** К-видео "Топ-8".
**19.45** Документальный сериал "Дикая природа".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** Региональный репортаж.
**21.10** Фантастическая комедия **"Короткое замыкание-2".**

### ТВ ЦЕНТР

**04.45** Информационно-развлекательный канал "Настроение".
**07.50** Газетный дождь.
**08.00** Россия: выдающиеся разведчики XX века.
**08.30** "Я оставил свое сердце в Уренгое". Концертная программа.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.15** Караоке стрит.
**11.30** Наша версия. Под грифом "Секретно".
**12.10, 23.05** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кестер".** Детективный сериал (Германия).
**14.20** Войди в свой дом.
**14.30 "Неприрученная Африка".** Телесериал.
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30 "Расследование Элоизы Ром".** Телесериал (Франция).
**16.30** Служебный вход.
**17.15** "Алфавит". Телеигра.
**18.00 "Разлученные".** Телесериал (Мексика).
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Выборы-2003.
**20.00 "Мужская работа-2".** Телесериал (Россия).
**21.40** Выборы мэра города Москвы.
**21.45** "Народ хочет знать". Ток-шоу.
**22.35** Времечко.
**23.25** 25-й час. События. Время московское.
**23.45 "Опасные связи".** Художественный фильм. 3-я серия.
**01.10** Мода non-stop.

### EUROSPORT

**09.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Квалификация. Повтор.
**10.30** Лыжная гонка. Кубок мира. Женщины. 10 км. Прямая трансляция.
**11.45** Лыжная гонка. Кубок мира. Мужчины. 15 км. Прямая трансляция.
**13.00** Футбол. Кубок УЕФА.
**17.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Квалификация. Повтор.
**17.45** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. К 120. Прямая трансляция.
**20.00** Футбол. Кубок УЕФА.
**22.00** Горные лыжи. Кубок мира. Парк-сити. Женщины. Прямая трансляция.
**23.00** Снукер. Чемпионат Великобритании. Йорк. Прямая трансляция.
**00.15** Фитнес. Чемпионат Европы.
**01.15** Экстремальные виды спорта. Повтор.


**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

Рэдактар нумара Даша ПАЎЛОЎСКАЯ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП "Красная звезда", 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 670 экз. Заказ № 846.